PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 23 (2247) Год XLIV | Беласток 6 чэрвеня 1999 г. | Цана 1,20 зл.

## Над берагам Сены

Яўген Міранові̇ч

**У Парыж паехаць сёння з Польшчы вельмі проста. Дастаткова мець толькі пашпарт і грошы. Аднак, калі з пашпартам няма праблемаў, тады з грашамі справа больш складаная. У Парыжы ўсё амаль у тры-чатыры разы даражэйшае чым у Беластоку, а заробкі жыхароў аднаго і другога горада лепш не параўноўваць. Варта, аднак, ашчаджаць, каб пабачыць гэты асаблівы горад, дзе на працягу некалькіх стагоддзяў нараджаліся ідэі ў галіне палітыкі, культуры, архітэктуры, мастацтва, якія паўплывалі на характар сучаснай Еўропы.**

У сталіцы Францыі і навокал яе жыве амаль 20 мільёнаў людзей. Гэта 40 працэнтаў насельніцтва ўсяе краіны. Праехаць з аднаго кутка горада ў другі можна беспраблемна пры ўмове, што не будзем карыстацца аўтамабілем. Шчыльная сетка ліній метро дазваляе маланкава перамяшчацца на вялікіх прасторах. На ўскраінах горада пачынаюцца шырокія аўтастрады. Часам доўгімі кіламетрамі цягнуцца яны над зямлёй. Над імі стаяць шматпавярховыя будынкі. Пра сталіцу Францыі гавораць, што тры яе паверхі знаходзяцца пад паверхняй зямлі. Падземныя ў Парыжы не толькі метро і дарогі, але таксама гаражы для мільёнаў аўтамабіляў, багатыя магазіны і рэстараны.

У Парыжы амаль палову людзей, якіх бачыцца на вуліцах горада, складаюць каляровыя. Чорна-белыя пары гэта даволі звычайны вобраз і не выклікае ён ніякага зацікаўлення. Дробны гандаль і гастраномія пераважна знаходзяцца ў руках азіятаў — кітайцаў, в'етнамцаў, карэйцаў, тайландцаў. Найчасцей відаць белых жабракоў. На тратуарах, каля турыстычных атракцыёнаў, часта можна сустрэць рускіх музыкантаў, іграючых і спяваючых творы Акуджавы, Высоцкага ці казацкія песні. У суботу ў адным з найстарэйшых храмаў Еўропы, касцёле св. Германа ксёндз кітайскай пароды вянчаў белага хлопца і чорную дзяўчыну. Сярод гасцей на лаўках сядзелі людзі ўсіх расаў. Цяжка ўявіць сабе такую сітуацыю ў Польшчы, дзе талерантнасць быццам бы мае шматвяковую традыцыю.

У Парыжы горад можна аглядаць удзень і ноччу. У дзень адкрыты ўсе музеі і галерэі, у якіх тоўпяцца пераважна французска- і англамоўныя турысты. На англійскай мове найчасцей гавораць госці з Азіі, на французскай — з паўночнай Афрыкі. Турыстаў з усходняй Еўропы лёгка заўважыць, паколькі ходзяць яны вялікімі групамі і слухаюць казак гідаў, якія імі апякуюцца. Ноччу Парыж вяртаецца ва ўладанне жыхароў горада і тых, якія пражываюць у ім даўжэй чым звычайныя турысты. Яны га-

[працяг ☞ 4]



*Гайнаўскі маладзёжны хор.*

# Фестываль маладзее

Аляксей Мароз

— Найбольш цешыць, што сёлета ў гайнаўскай царкве спявае вельмі многа моладзі і дзяцей і прытым прадстаўляюць яны добры ўзровень. Зерне вялікіх узнёслых спраў, якое пасеялі мы ў людскіх сэрцах, дае свой плён. Маладыя людзі, якія зараз выступаюць, дазваляюць нам спакойна глядзець у будучыню, — кажа айцец Юры Шурбак, дырыжор і член журы.

XVIII Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі „Гайнаўка '99" праходзіў ад 23 да 30 мая ў Свята-Троіцкім саборы. У ходзе конкурсу выступілі прыхадскія вясковыя і гарадскія, аматарскія і прафесійныя свецкія хоры.

**Найбольш было маладых**

Сярод вясковых хораў, за выключэннем гасцей з Беларусі, выступала толькі моладзь і дзеці. У гарадскіх большую частку таксама састаўлялі маладыя людзі.

— Трэба сказаць, што ва ўсіх тых вёсках і мястэчках, дзе толькі ёсць каму пакіраваць хорам, моладзь горнецца да царкоўнага спеву. Калі наведваю суседнія прыходы, штораз больш маладых бачу ў царкоўных хорах, — гаворыць айцец Міхаіл Негярэвіч, благачынны Гайнаўскага дэканата. — Крыху іншы падыход у маладых людзей за ўсходняй мяжой, якія не лічаць яшчэ гонарам спяваць у царкоўных хорах.

У маладзёжным хоры Свята-Троіцкага прыхода з Гайнаўкі выступіла пяцьдзесят вучняў і студэнтаў пад кіраўніцтвам Марка Мацюкі.

— Наш хор найважнейшай справай лічыць падрыхтоўку да багаслужбаў. На фестывалях параўноўваем нашы ўмеласці з іншымі. Увесь наш рэпертуар прэзентаваны на конкурсных выступленнях выкарыстоўваем у час набажэнстваў, — гаворыць кіраўнік Марк Мацюка. — Каб прыстойна паказаць сябе ў час фестывалю, пачынаем рыхтавацца недзе паўгода раней.

У хоры Успенскага прыхода з Бельска-Падляшскага маладыя таксама састаўляюць большасць.

— У нашым хоры добрая атмасфера. Я трапіла сюды па запрашэнні сяброўкі, — кажа Бажэна Слівінская. — Звычайна спяваем са старэйшымі. Аднак большасць калектыву гэта вучні сярэдніх і падставовых школ, ёсць нават і студэнты.

Самымі маладымі ўдзельнікамі фестывалю былі вучні з калектыву „Лісічкі" з Ласінкі.

— Апошнім часам штораз больш спяваем царкоўнай музыкі, — гаворыць кіраўнік калектыву Аліна Кос. — Вучні ўмеюць адспяваць усю Літургію ў час большых святаў. Нядаўна сталі мы лаўрэатам Фестывалю царкоўнай песні, які праходзіў у Мінску.

Прыстойна паказаліся таксама і іншыя маладзёжныя хоры: са Свята-Духаўскага прыхода з Беластока, гарцэрскі калектыў, у якім спяваюць вучні з Гайнаўскага белліцэя, з Гарадка, Кляшчэляў і Белавежы, які выступаў ужо раней па тэлебачанні і радыё, а ў мінулым годзе атрымаў у Гайнаўцы вылучэнне.

**Вярнуўся Супрасльскі ірмалагіён**

У панядзелак па-за конкурсам выступіў Патрыяршы мужчынскі хор „Перасвет" з Манастыра св. Данілы ў Маскве з сусветным правыкананнем фрагментаў Супрасльскага ірмалагіёна і з напевамі Кіева-Пячэрскай лаўры. Хор заспяваў, між іншым, фрагменты антыфонаў Вялікай Пятніцы (кароткія малітоўныя тэксты), якія разам з іншы-

[працяг ☞ 3]

## Адукацыя ў пушчы

Асяродак лясной адукацыі „Ягелонскае" знаходзіцца кіламетраў тры за Белавежай, на прыгожай паляне. Адрамантаваныя будынкі заахвочваюць увайсці ўсярэдзіну, паглядзець выстаўку старых фатаграфій Белавежы пачатку XX стагоддзя. Побач здымкі з архіва спадара Валанцея са Свінарояў. У выставачнай зале экспануюцца таксама старыя лясныя прылады, якімі карысталіся лясныя работнікі.

[экаадукацыя ☞ 3]

## У падтрымку выбараў

16 мая г.г., у апошні дзень прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, „Маладыя дэмакраты", якія дзейнічаюць пры Уніі вольнасці, правялі пікеты пад беларускім пасольствам у Варшаве і пад Генеральнымі консульствамі ў Беластоку і Гданьску. Пры спрыяльным сонечным надвор'і пад консульствам у Гданьску сабралася каля 30 маладых людзей.

[болей ☞ 4]

## Знак эпохі

„ARCHE" — гэта часопіс інтэграцыі беларускамоўнай Беларусі ў агульнаеўрапейскі кантэкст. Мы робім стаўку на пераклады сусветнай класікі на беларускую мову. У нас такога часопіса, які б займаўся перакладамі сучаснай літаратуры, не было. У Беларусі трансляцыя дасягненняў сусветнай думкі адбываецца праз расейскую мову, а беларуская пры данясенні іх да чытача не выкарыстоўвалася.

[новы часопіс ☞ 5]

## Соль зямлі гарадоцкай

Святкаванне 45-гадовага юбілею калектыву адбылося ў Гарадку 22 мая. Зала Дома культуры запоўнілася людзьмі. Заспявалі, засвісцелі, затрашчалі птушкі. Адчыняецца заслона — і перад гледачамі паўстае шматколерны ружова-зялёны луг. У зале запахла палявымі кветкамі і пад гэтыя пахі на сцэну павольна ўваходзяць спявачкі-прыгажуні з „Расспяванага Гарадка". Ліюцца песні.

[юбілей ☞ 8]

## Кіёск з аб'явамі

Аднак улады не прадбачылі аднаго: на сценах кіёска з'явіўся бюлетэнь, у якім асвятляецца дзейнасць мясцовага самаўрада і крытыкуецца праца гмінннай адміністрацыі. Пасля гэтага войт неадкладна прыняў рашэнне аб зносе кіёска.

[вынік крытыкі ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## Перарэгістрацыя роўная забароне

Як ужо паведамлялася ў „Ніве", у адпаведнасці з дэкрэтам Аляксандра Лукашэнкі № 2 за студзень гэтага года, усе беларускія палітычныя партыі і грамадскія аб'яднанні да 1 ліпеня павінны прайсці перарэгістрацыю. Арганізацыі, якія яе не пройдуць будуць забаронены. Выглядае на тое, што такімі арганізацыямі стануць усе партыі і грамадскія рухі дэмакратычнага накірунку.

Рашэнне па рэгістрацыі прымае спецыяльна створаная рэспубліканская камісія з былым палкоўнікам палітаддзела савецкай арміі на чале, сённяшнім віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Замяталіным. Ён заяўляе, што партыі і грамадскія аб'яднанні павінны мець у сваіх устаноўчых дакументах заяву пра прызнанне канстытуцыі прынятай на рэферэндуме ў 1996 годзе. Як вядома, вынікаў рэферэндуму не прызнае дэмакратычная апазіцыя і змагаецца за аднаўленне дзейнасці на Беларусі канстытуцыі 1994 года. Для дэмакратычных арганізацый выкананне патрабаванняў Замяталіна раўназначна палітычнай смерці. Такім чынам яны загнаны ўладамі ў кут.

Згодна паведамленню прэзідэнцкай газеты „Советская Белоруссия" ад 26 мая, да сярэдзіны гэтага месяца падалі дакументы на перарэгістрацыю толькі 4 партыі: Партыя камуністаў Беларуская, Ліберальна-дэмакратычная партыя, Беларуская партыя жанчын „Надзея" і Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці.

Аднак уладам і гэтага замнога. Кіраўніцтва ПКБ днямі атрымала паведамленне, што партыя не прайшла перарэгістрацыю. Нагодай гэтаму стала быццам бы тое, што ў статуце ПКБ запісана пра спадкаемнасць партыі ад савецкай КПБ. Камуністы на працягу месяца павінны выправіць статут.

Магчыма такія паводзіны ўлад тлумачацца тым, што АБСЕ, з прадстаўніцтвам якога на Беларусі рэжым апошнім часам спрабуе дамовіцца, заклікае беларускі ўрад да дыялогу з апазіцыяй. Калі перарэгістрацыя нелаяльных да прэзідэнта партый не адбудзецца, улады змогуць заявіць, што згодныя супрацоўнічаць з „канструктыўнай" апазіцыяй (на такую ролю, напрыклад, падыходзяць ліберальныя-дэмакраты). Іншыя ж арганізацыі афіцыйна будуць распушчаны. Іх дзейнасць па дэкрэце прэзідэнта будзе лічыцца антызаконнай, а весці дыялог з парушальнікамі закону АБСЕ, магчыма, прымушаць і не будзе.

**Зміцер Кісель**

## Віцебскія паведамленні

Па аналогіі з заходнебеларускімі рэгіёнамі на Віцебшчыне створана Каардынацыйная рада няўрадавых арганізацый сацыяльнай накіраванасці. Рашэнне пра гэтае прынялі каля пяцідзесяці прадстаўнікоў сацыяльных няўрадавых арганізацый на праведзеным 29 красавіка ў Віцебску „круглым стале" НДА, што ажыццяўляюць дапамогу слаба абароненым групам грамадства. Рада складаецца з васьмі чалавек. Яе ўзначаліла кіраўнік Віцебскай філіі Асацыяцыі дапамогі дзецям-інвалідам Вольга Нікіціна.

1 мая ў Рэсурсным цэнтры „Згода" (Віцебск) у рамках агульнарэспубліканскай „SOS-кампаніі" адбыўся семінар па праблемах рэгістрацыі і перарэгістрацыі грамадскіх арганізацый. У РЦ „Згода" працавала група юрыстаў. Адмыслоўцы праінфармавалі аб зменах у нацыянальным заканадаўстве. Семнаццаць няўрадавых арганізацый Віцебскага рэгіёна (абласны цэнтр, Віцебскі раён, Орша, Новалукомль) і Гомеля пракансультаваліся па пытаннях падрыхтоўкі неабходных дакументацыі для рэгістрацыі і перарэгістрацыі.

13 травеня віцебскія сябры „Маладога адраджэння", „Грамадзянскага форуму" і „Маладога фронту" па прапанове і пры падтрымцы мясцовай рэгіянальнай арганізацыі Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" зладзілі маладзёжную сустрэчу „У коле сяброў". На забаўляльным мерапрыемстве юнакі і дзяўчаты ўдзельнічалі ў некалькіх гульнях дзеля бліжэйшага знаёмства, лепшае камунікацыі і ўзаемаразумення. Затым былў арганізаваны конкурс на веданне беларускай літаратуры, мовы, гісторыі. Пераможцы атрымалі прызы ад ЗБС „Бацькаўшчына". Завяршыў спатканне канцэрт вакаліста віцебскага гурта „Нью-касмаполіс" Яўгена Савельева.

Віцебская гарадская арганізацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі атрымала дазвол на правядзенне 13 чэрвеня культурна-масавага мерапрыемства пад назвай „Дзень грамадзяніна". Партыйцы прасілі ў мясцовай улады дазвол на правядзенне імпрэзы ў чатырох кропках Віцебска. Аднак выканаўчы камітэт выдзеліў толькі адно месца для арганізацыі мерапрыемства. Ім аказўся сквер на плошчы Уладзіміра Леніна. Пры нагодзе выявілася, што ёсць вуснае ўстанаўленне гарадскіх улад аб дазволе апазіцыйных акцый у Віцебску толькі на пляцы імя камуністычнага правадыра. Тут ужо пратэстуй, колькі папросіш. Ніхто кепскага не адбяр і лепшага не дасць.

**Юрась Сцяпанаў,**
**НРІА „Контур"-INFO**

## Трагедыя ў метро

Жудаснае здарэнне адбылося вечарам 30 мая ў Мінску. У выніку даўкі ў падземным пераходзе пры ўваходзе ў станцыю метро „Няміга" загінула 54 чалавек.

У гэты трагічны дзень на праспекце Машэрава беларускай сталіцы адбывалася адразу некалькі масавых мерапрыемстваў. Радыёстанцыя „Мір" адзначала другую гадавіну свайго існавання, а піўзавод „Аліварыя" праводзіў Дзень піва. На праспекце сабралася некалькі тысяч людзей. Нечакана, у 20 гадзін 40 хвілін распачалася навальніца. З неба паліў дождж і пасыпаўся град. Людзі кінуліся хавацца ў метро. Тыя хто бег па перадзе пачалі падаць. Распачалася даўка. Удзельнікамі святочных мерапрыемстваў у большасці былі падлеткі да 17 гадоў. Яны і склалі асноўную частку ахвяраў. У выніку ўдушша, ад траўм нанесеных абцасамі пацярпела больш 150 чалавек, з чаго да раніцы 31 мая 54 памерла. Сярод загінуўшых 42 дзяўчыны. Смерць на станцыі метро спаткала і некалькі дарослых, якія выпадкова апынуліся на шляху атоўпу моладзі. Загінулі 2 міліцыянеры.

Раніцай 31 мая прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сказаў, што яму няма каго абвінаваціць у трагедыі. Па словах прэзідэнта ва ўсім вінавата стыхія. Міністр унутраных спраў Сівакоў лічыць таксама: „Предпринять что-нибудь, чтобы не допустить трагедии, было невозможно".

Аднак канчатковае рашэнне павінна зрабіць спецыяльная дзяржаўная камісія, якая была створана на наступны дзень пасля трагедыі. **(зк)**

## Цане загадана: „Стаяць!"

Увесь канец мая беларускія дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі ў чарговы раз расказвалі насельніцтву краіны, як яно неўзабаве заможна зажыве. Прэзідэнт Беларусі вынайшоў новы спосаб ашчаслівлення сваіх падданых. 20 мая ён выдаў свой 285-ы ўказ пад назвай „Аб некаторых мерах па стабілізацыі цэн (тарыфаў) у Рэспубліцы Беларусь".

З гэтага дня на Беларусі забараняецца рост цэнаў без прыняцця „адпаведных мераў па сацыяльнай абароне насельніцтва". Зараз колькі каштуюць амаль усе тавары і паслугі ад каштоўных металаў да білетаў у тэатр і кіно будуць вырашаць уладныя структуры. Кіраўнікі прадпрыемстваў незалежна ад формы ўласнасці ўжо не змогуць рэгуляваць цэны на сваю прадукцыю ў адпаведнасці са сваімі інтарэсамі. За іх гэта будзе рабіць Савет Міністраў, Нацыянальны банк, аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам.

Але дзяржаўным чыноўнікам, ад якіх залежыць за колькі, напрыклад, можна схадзіць у кінатэатр „Чырвоны кастрычнік", каб паглядзець фільм „Паляванне на «Чырвоны кастрычнік»" не пазайздросціш. Як забяспечыць адпаведную сацыяльную абарону насельніцтва і не павышаць цэны пры страшэннай інфляцыі, спадзе вытворчасці, адсутнасці інвестыцый і замежных крэдытаў, нерэнтабельнасці большасці калгасаў ведае, відаць, толькі Аляксандр Лукашэнка. Але ён пра гэта сваім падначаленым нічога не кажа. Толькі ўвесь час прынародна аблайвае іх апошнімі словамі. Пагражае адправіць у адстаўку, але не на пенсію, а за турэмныя краты. Адбываецца гэта перыядычна, аднак пакуль плёну не прынесла. Хаця ж, за апошні тыдзень мая падаражанняў на самай справе не было. Праўда, толькі за першы тыдзень паводле афіцыйных даных у сярэднім цэны ў Беларусі выраслі на 5 працэнтаў. Рэальна — значна больш. **(зк)**

## Як паміраюць беларускія пісьменнікі

26 мая ў Гродне памерла беларуская пісьменніца Лідзія Ялоўчыц. На наступны дзень, пасля адпявання ў гродзенскім Пакроўскім саборы нябожчыцу адвезлі хаваць на радзіму — у вёску Марцечаўцы Ваўкавыскага раёна.

Нарадзілася Лідзія Ялоўчыц у 1911 годзе. Перад самай вайной, у 1939 годзе пераехала жыць у Гродна. У саракавыя гады скончыла Гродзенскі педагагічны інстытут, пасля працавала настаўніцай. Магчыма, сувязь з моладдзю стала прычынай таго, што сваю творчасць нябожчыца прысвяціла юнакам і дзяўчатам. Пісала яна і прозу, і вершы. Аднак апублікаванымі былі толькі тры яе кнігі з празаічнымі творамі. Адна з іх, „Вясельныя сустрэчы", стала сапраўдным гімнам заходнебеларускай вёсцы, яе звычаям і абрадам.

Правесці Лідзію Ялоўчыц у апошні шлях з горада, дзе яна правяла большасць свайго жыцця, прыйшло толькі некалькі чалавек. Было ўсяго два вянкі. Адзін ад сваякоў, другі — ад Гродзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, сябрам якога была нябожчыца. Прынесла яго старшыня аддзялення Данута Бічэль-Загнетава. Большасць гродзенскіх пісьменнікаў не знайшла часу, каб развітацца з калегай. Калі труну клалі на машыну, нейкая жанчына, якая ішла побач, запытала: „Кого хоронят? Мужчину или женщину?"

**(зк)**



## 10 гадоў БАС

Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў у Польшчы плянуе **18 верасьня 1999 г.** правесьці мерапрыемства прысьвечанае 10 гадавіне рэгістрацыі арганізацыі й яе законнай дзейнасьці. Мерапрыемства адбудзецца ў Супрасьлі ў асяродку адпачынку „Пушча".

**Плян мерапрыемства**

$12^{00}$ — $14^{00}$ прыезд, кватарунак і рэгістрацыя ўдзельнікаў;
$14^{30}$ — $17^{30}$ афіцыйная частка, даклады;
$19^{00}$ — ... урачыстая вячэра;
$9^{00}$ — $10^{00}$ сьнеданьне, развітаньне.

У артыстычнай частцы прадугледжваюцца канцэрты Сяржука Сокалава-Воюша й Віктара Шалкевіча.

**Кошты**

150 зл. ад асобы (начлег, абед, сьнеданьне);
110 зл. ад асобы (без начлегу, абед, сьнеданьне);
70 зл. ад асобы (без начлегу, без абеду, бяз сьнеданьня).

Свае заявы на ўдзел у мерапрыемстве можна падаваць да **15 жніўня 1999 г.**, уплачваючы адпаведны ўзнос на рахунак БАС — **Białoruskie Zrzeszenie Studentów, PBK S.A. I O/Białystok, Nr 11101154-2857-2700-1-14** — з прыпіскай „10-lecie". Пасьведчаньне ўплаты захаваць.

# Адукацыя ў пушчы



*Анджэй Антчак на выстаўцы лясных прылад.*

— У наш Асяродак лясной адукацыі „Ягелонскае” запрашаем моладзь і дарослых, арганізаваныя групы і індывідуальных турыстаў, усіх тых, якія хочуць пазнаёміцца з непаўторнай прыродай Белавежскай пушчы, — заахвочвае старшы спецыяліст па справах адукацыі і аховы прыроды Анджэй Антчак.

Будынкі Асяродка „Ягелонскае” знаходзяцца кіламетраў тры за Белавежай, на прыгожай паляне. Прыгожыя, адрамантаваныя будынкі заахвочваюць увайсці ўсярэдзіну.

— Будынкі атрымалі мы ад мясцовай пагранічнай заставы ў 1989 годзе. Былі яны моцна знішчаны і рамонт праводзіўся ажно да 1998 года. Пабудаваны былі яны яшчэ перад вайной і кансерватар не дазваляў памяняць знешні выгляд, — паясняе спадар Антчак.

Усярэдзіне знаходзіцца выстаўка старых фатаграфій Белавежы пачатку XX стагоддзя. Побач можна паглядзець фатаграфіі з сямейнага архіва спадара Валанцея са Свінароя. У зале экспануюцца таксама старыя лясныя прылады, якімі карысталіся лясныя работнікі.

— У нас няма пастаянных экспазіцый. Выстаўкі мяняем, каб турысты маглі больш пабачыць, — тлумачыць Анджэй Антчак. — Пастаянна можна наведваць у нас адукацыйныя шляхі, арганізаваны з думкай пра вучняў падставовых і сярэдніх школ. Прымаем іх бясплатна і па ранейшай дамоўленасці з нашым праваднікам могуць яны знаёміцца з цікавай расліннасцю і прыгажосцю нашай белавежскай прыроды.

На адукацыйным шляху ад Белавежы да Асяродка „Ягелонскае” адзінаццаць прыпынкаў і кожны прыцягвае ўвагу нейкай раслiннай незвычайнасцю. Пачынаецца ён ад будынкаў Белавежскага надлясніцтва — помнікаў архітэктуры 20-х гадоў нашага стагоддзя. Побач вялікія дубы — таксама помнікі прыроды.

— Цікавы для наведвальнікаў запаведнік „Высокае багна”, у якім лес напамінае сібірскую тайгу. У рэчцы Нараўцы можна ўбачыць баброў, — расказвае пра самыя цікавыя месцы спадар Антчак. — Можна ўбачыць таксама, як чалавек сваёй працай і неасцярожнасцю мяняе воблік прыроды. Каля дарогі сустрэнем і сельскагаспадарчыя ўгоддзі і ўчасткі, на якіх нядаўна пасаджаны лес, ёсць месца куды людзі вывозілі смецце. Там, дзе людзі здабывалі пясок можна ўбачыць структуру глебы пад лясной паверхнасцю. Па дарозе будуць таксама месцы, куды людзі прыязджаюць на паляванне — там найчасцей можна сустрэць лясную звярыну.

Для знатакоў прыроды самымі цікавымі будуць тыя месцы, дзе расце натуральны лес, для гісторыкаў — курганы X-XI стагоддзяў. Пры канцы дарогі турысты наведваюць Асяродак адукацыі „Ягелонскае” і пясчанікі. Па заказе арганізуюцца яшчэ вогнішчы з пасілкаваннем.

— У Асяродку зроблена вельмі многа дзякуючы намаганням кіраўніка Кшыштафа Замойскага, які не толькі кіруе, але многа робіць уласнымі рукамі. Трэба яшчэ адрамантаваць гаспадарчыя будынкі, у якіх можна было б падрыхтаваць месцы для начлегу, — паясняе спадар Анджэй Антчак. На справы экалагічнай адукацыі звяртаем увагу ўжо здаўна. Рашэннем міністра аховы асяроддзя ў 1994 годзе быў створаны першы ў Польшчы Лясны ўзорны комплекс „Белавежская пушча”, якога галоўнымі задачамі з'яўляюцца ахова прыроды, адукацыя і прапагандаванне турызму. — Наша задача — такая гаспадарка ў пушчы, каб лясам вяртаць іх даўні воблік, таму важнай справай лічым новыя лесанасаджэнні. Яшчэ ў 70-х гадах паўсталі турыстычныя шляхі. Зараз ахоўваецца 30 працэнтаў тэрыторыі Белавежскай пушчы, якая належыць Дзяржаўным лясам. На ёй знаходзіцца, між іншым, 20 запаведнікаў і 1 100 дрэў-помнікаў прыроды.

**Аляксей Мароз**

# Фестываль маладзее



*„Лісічкі” з Ласінкі.*

[1 ☞ праця́г]

мі фрагментамі ірмалагіёна запісаны былі ў Супраслі ў 1598-1601 гадах. Сярод тых, якія спісвалі напевы, вядомы толькі адзін — Багдан Анісімовіч, спявак родам з Пінска, а апрацаваў іх прафесар Анатолій Канатоп з Масквы, які нядаўна іх і знайшоў.

— З праф. Анатоліем Канатопам знаёмы я ўжо даўно і калі ў красавіку г.г. прыехаў ён у Супрасль, ведаў я, што неадкладна трэба паказаць Супрасльскі ірмалагіён на нашым фестывалі, — кажа дырэктар Мікола Бушко.

Гэтыя зусім невядомыя ў нашых манастырах напевы гучалі ў саборы непаўторна.

**Прафесіяналізм ці духовасць?**

У пятніцу спявалі свецкія аматарскія хоры, сярод якіх толькі тры было з Польшчы. У суботу выступалі свецкія прафесійныя хоры, з ліку якіх штогод вылучаецца галоўны лаўрэат. За гэтае званне змагаліся харысты з Германіі, Фінляндыі, Украіны, Румыніі, Расіі, Малдовы і Беларусі. Праваслаўныя вернікі па-рознаму ацэньвалі прафесійныя хоры.

— Прафесіяналізм патрэбны на фестывалі, каб паказаць прыгажосць музыкі, але больш міла і прыемна слухаць выступленні прыхадскіх хораў, якія прасякнуты праваслаўнай духоўнасцю. Напрыклад, дзеткі з Ласінкі не спявалі як прафесіяналы, але відаць было, што спяваюць ад сэрца і даюць з сябе больш чым звычайныя свецкія хоры. Прафесійным спевакам, якія царкоўную музыку спяваюць толькі на фестывалях, цяжка пранікнуць у малітоўныя песні і напевы ды зразумець, што ў іх трэба падкрэсліваць, — мяркуе Марк Мацюка, кіраўнік гайнаўскага хору.

— Выступленні прафесіяналаў гэта музычныя канцэрты ў царкве, а напевы прыхадскіх хораў — адухоўленая малітва, самае каштоўнае для праваслаўных вернікаў, — робіць заключэнне айцец Славамір Хвойка са Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы.

Многія гайнавяне, якія наведвалі сабор на працягу тыдня, таксама былі згодны з успомненымі выказваннямі. Аднак некаторыя прыходзілі паслухаць прыгожую музыку, не прыдаючы большай увагі малітоўнаму боку спеваў.

Кожны дзень прыходзіла шмат маладых і старэйшых, якім дарагая царкоўная музыка. Наведвальнікам спрыяла таксама і надвор'е.

**Абвяшчэнне конкурсных вынікаў**

Рэзультаты конкурсных змаганняў былі абвешчаны ў нядзелю, 30 мая г.г. у Гайнаўскім доме культуры. Тут уручаны былі ўзнагароды і дыпломы. Першы гала-канцэрт адбыўся ў Свята-Троіцкім саборы.

Канцэрт удастоілі мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы ўладыка Сава, намеснік міністра культуры і мастацтва Яцэк Вайс, прадстаўнікі канцылярыі прэзідэнта РП, Уладзімеж Цімашэвіч ды паслы Беларусі, Македоніі, Румыніі, Рэспублікі Паўднёвай Афрыкі. Перад публікай выступалі ўзнагароджаныя хоры і тыя, якіх журы вылучыла за добры спеў. Пераможцам у катэгорыі вясковых прыхадскіх хораў стаў Маладзёжны хор з Белавежы, вылучэнне атрымаў хор з Гарадка, а пазаконкурсную ўзнагароду атрымалі дзеткі з „Лісічак”. Сярод прыхадскіх гарадскіх хораў перамаглі харысты з кафедры св. Марыі Магдаліны з Варшавы, сярод іншых прыхадскіх хораў — хор прыхода Іконы Маці Божай Уцешыцелькі ўсіх засмучаных з Мінска. З ліку свецкіх хораў журы два раўнапраўныя першыя месцы прысвоіла аматарскім „Радуга” з Баранавіч і калектыву Дзяржаўнага музычнага ліцэя з Львова, а ў катэгорыі прафесійных — хору праваслаўнай мітраполіі „Крэда” з Кішынёва і хору „Свяцілен” з Манастыра св. Дзмітрыя Донскага з Растова-на-Доне (Расія).

Самым цікавым і займальным для публікі атрымалася апошняе выступленне хору „Крэда” з Кішынёва. Па прычыне аварыі электрычнасці выкліканай бурай спынілі працу працаўнікі тэлебачання. Ніхто не свяціў людзям у вочы, а над галовамі не кружылася камера. Харысты са свечкамі ў руках стварылі незвычайную атмасферу, а царкоўная музыка, якая прагучала ўпоцемку напэўна даўжэй застанецца ў памяці. Другі гала-канцэрт адбыўся ў Дзяржаўнай філармоніі ў Беластоку. Царкоўныя напевы і малітвы напэўна яшчэ доўга будуць успамінацца слухачамі фестывалю.

**Аляксей Мароз**

# Экалогія... па-арлянску

На тэрыторыі Арлянскай гміны знаходзіцца некалькі гравійных кар'ераў, адкуль вывозіцца жвір на будову дарог. На адным з іх землечарпалкі выкопваюць людскія косці.

У выніку хадайніцтва арлянскіх радных Аддзел аховы асяроддзя Ваяводскай управы пацвердзіў, што ў Вульцы-Выганоўскай здабываецца гравій без неабходнай канцэсіі і аштрафаваў уладальніка кар'ера Яўгена Зінкевіча — старшыню Рады гміны Орля. На нейкі час здабыча жвіру прыпынілася. Аднак 26 красавіка, напярэдадні сесіі Рады гміны, на якой мела ацэньвацца праца гміннай адміністрацыі, войт паслаў землечарпалку і грузавікі ў Вульку-Выганоўскую вазіць жвір на рамантаваныя дарогі.

Як пазней выявілася, на месцы кар'ера калісьці знаходзіўся могільнік. Раней настаяцель мясцовага прыхода папярэджваў аб гэтым войта, але той праігнараваў справу. У выніку на дарогу з Круглага ў Дыдулі разам са жвірам траплялі людскія косці і чэрапы. Гэта ўзбударажыла людзей. Справай пацікавіўся ваяводскі захавальнік археалагічных помнікаў. Пасля тыдня гмінныя ўлады перапахавалі людскія астанкі.

У яме побач кар'ера паўстала самавольная звалка смецця. Такіх незаконных звалак на тэрыторыі гміны можна налічыць пад дзве дзесяткі. 13 мая г.г. справай зацікавіўся Ваяводскі інспектарат аховы асяроддзя, які саставіў адпаведны пратакол. Гэтае пытанне разглядае таксама Гмінная камісія па справах самаўрада і маёмасці. Але цяжка сказаць ці гмінныя ўлады справяцца з незаконнымі звалкамі. Многія з іх размясціліся ў прыдарожных лясах. Самая вялікая знаходіцца каля Пашкоўшчыны.

**Міхал Мінцэвіч**

# Над берагам Сены



[1 ☞ працяг]
лоўным чынам напаўняюць дзесяткі тысяч рэстаранчыкаў, кафеек, бараў. У славутым Лацінскім квартале больш людзей знаходзіцца на вуліцах пасля поўначы чым у сярэдзіне дня. Вакол касцёла Святога Сэрца (Хрыстова), месца, з якога відаць панараму горада, пры шкляначцы віна яднаюцца амаль цэлую ноч пакаленні, народы і расы, рэлігіі. Недалёка Эйфелевай вежы, на плошчы Тракадэра пах лёгкіх наркотыкаў (марыхуаны) тлумачыць спантаннасць танцаў, і незвычайнасць свабоднай атмасферы апынуўшыхся там маладых людзей.

У Парыжы, хаця на вуліцах не відаць паліцыі, адчуваеш сябе больш бяспечна чым у Беластоку ці Варшаве. Людзі проста менш агрэсіўныя. Калі, аднак, нешта здарыцца, невядома адкуль вырастаюць паліцэйскія нарады, якія дзейнічаюць вельмі рашуча і даволі хутка вылаўліваюць з натоўпу парушальнікаў парадку.

Падчас нядзельнай багаслужбы ў вялікім касцёле, дзе магло б памесціцца некалькі тысяч людзей, я налічыў 27 вернікаў. Вакол алтара і жменькі вернікаў хадзілі турысты. Больш людзей збіраецца толькі падчас вясельнай багаслужбы. Французы свае касцёлы ўспрымаюць як помнікі культуры, як сведкаў веліччыні Францыі ў мінулым. Расія нават падчас бальшавіцкага панавання не прадстаўляла так атэізаванага грамадства як сучасная Францыя. На палякаў французы глядзяць як на нейкую асаблівасць. Двое парыжан нават спыталі мяне, ці ў Польшчы ёсць каляровыя тэлевізары. Праўдападобна шмат хто не ведае нават дзе дакладна знаходзіцца Польшча. Адзін бармен віншаваў мяне нават з нагоды выхаду Польшчы з Савецкага Саюза. Здавалася яму, што Валэнса побач Гарбачова быў рэфарматарам камунізму, не ведаў аднак дакладна, ці Польшча была ў складзе СССР разам з Украінай, ці існавала на нейкіх іншых прынцыпах. Дарэчы, нікога гэта асабліва не цікавіць.

Люд французскі, а праўдападобна і ўсяе заходняй Еўропы, верыць сваёй прапагандзе наконт югаслаўскай вайны. Лепш зарыентаваныя эліты ставяцца да гэтага канфлікту больш крытычна. Усе заўважаюць таталітарызм натаўскай прапаганды. Абурае яна нават тых, якія падтрымліваюць агрэсію супраць Югаславіі. На антываенную дэманстрацыю арганізаваную 15 травеня Нацыянальнай канфедэрацыяй працы прыйшло аднак толькі некалькі соцень чалавек. Пакрычалі яны каля будынка нейкага вайсковага штаба, раздалі лістоўкі ўсім выпадковым прахожым і разышліся.

У Парыжы найлепш відаць, як французы ствараюць сваю нацыянальную легенду. На славутай Трыумфальнай арцы віднеюць назвы толькі тых мясцовасцей, дзе французскія войскі разгрмілі праціўнікаў. Найбольш з напалеонаўскай эпохі. Назвы станцый метро, вуліц напамінаюць таксама пра месцы перамогі, маўчаць пра прайграныя бітвы і войны. На кожным кроку французы ствараюць, хіба для сябе, ілюзію свае магутнасці, быццам бы час спыніўся ім на пачатку XIX стагоддзя.

Не абазначае гэта, аднак, што французы з'яўляюцца нейкімі рамантыкамі. Наадварот, усюды відаць праявы іх прагматычнага мыслення. Дамы, вуліцы, рэстараны, крамы пад'езды сведчаць пра іх патрэбу ашчаднасці часу і выгаднага жыцця. Невырашальнай праблемай сталі сабачыя адходы, якія ляжаць на тратуарах, часам побач элегантных рэстаранаў. Французы, як нехта палічыў, маюць у сваіх дамах больш сабак чым дзяцей. У цэнтры Парыжа амаль няма незабудаваных прастораў, таму некаторыя вуліцы, асабліва пасля ранішняга выгульвання сабак, выглядаюць не надта цікава.

Нягледзячы на легенды і стэрэатыпы, Парыж не з'яўляецца, аднак, цэнтрам сусветнай распусты. Плошча Пігаль не адрозніваецца надта ад іншых, а славуты Ружовы млын не выклікае асаблівага зацікаўлення. Дамы, якія раней усялякімі спосабамі імкнуліся прыцягнуць увагу мужыкоў з усяго Парыжа, сёння рэкламуюцца пры дапамозе электроннай тэхнікі. Выглядаюць яны як арыстакраткі, сакратаркі, студэнткі, ліцэісткі. З плошчы Пігаль выязджаюць і вяртаюцца туды шыкарнымі аўтамабілямі. Сённяя арганізацыя „распусты" выглядае ў Парыжы так, як і ў Варшаве, Мінску ці Кіеве, можа толькі менш у ёй крымінальнага кантэксту.

**Яўген Міра́новіч**

# У падтрымку прэзідэнцкіх выбараў




16 мая г.г., у апошні дзень прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, „Маладыя дэмакраты", якія дзейнічаюць пры Уніі Вольнасці, правялі пікеты пад беларускім пасольствам у Варшаве і пад Генеральнымі консульствамі ў Беластоку і Гданьску. Пры спрыяльным сонечным надвор'і пад консульствам у Гданьску сабралася каля 30 маладых людзей. Прынеслі яны з сабой лозунгі: „Powodzenia Demokracjo!", „Europa czeka". Над групай луналі два бел-чырвона-белыя сцягі, пазычаныя ад гданьскіх беларусаў. Марк Асяцімскі, арганізатар пікета, прачытаў пастанову Галоўнага праўлення Таварыства „Маладыя дэмакраты" ў справе прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Да сабраных выйшаў віцэ-консул Рэспублікі Беларусь у Гданьску Аляксандр Берабеня, якому арганізатары ўручылі ліст з пастановай. Пасля прабавалі крыкнуць пару разоў свае лозунгі. Пікет быў вельмі дысцыплінаваны. Апрача „Маладых дэмакратаў" былі таксама маладыя кансерватары і пару старэйшых асоб. Усе прыйшлі добраахвотна, ведаючы дзеля чаго ідуць. Не сустрэла я нікога сярод пікетчыкаў, хто не ведаў бы пра Беларусь і яе сітуацыю. Акцыю „Маладых дэмакратаў" падтрымала таксама Беларускае культурнае таварыства „Хатка", хаця беларусаў прыйшло няшмат. Некаторыя проста баяліся, што ўдзел у пікеце замкне ім уезд у Рэспубліку Беларусь, дзе асталіся іх сем'і. Іншыя негатыўна паставіліся да арганізатараў-палякаў: „Няхай спярша ў сябе ў краіне зробяць парадак, а пасля змагаюцца за суседзяў". Большасць, аднак, аднеслася стрымана ці абыякава да пікета — і на ўсякі выпадак не прыйшла. Бо як гэта часта ў гісторыі Беларусі бывала — ніколі нічога не вядома.




**Лена Глагоўская**

*Фота аўтара*




# Не дазвольма сябе з'есці!

Адгалоскі

Тое, што кіруючая кааліцыя ігнаруе беларусаў і неакуратна ставіцца да этнічных і рэлігійных меншасцей у Падляшскім ваяводстве, факт неаспрэчны. Пра тое не раз пісала „Ніва". Мне даўно стала вядомым, што некаторым католікам мясцовы праваслаўны люд косцю ў горле стаіць. Не падабаецца ім наша гаворка і тое, што мы робім. Напрыклад, ехаў я цягнікам з Беластока ў Чаромху і са знаёмым пачалі мы гаварыць на мясцовым дыялекце. У суседнім купэ сядзела нейкая панюся, якая што раз скоса спаглядала ў наш бок. Відаць, хвалявалася. Прычыну гэтага хвалявання мы зразумелі, калі падышла да нас і са злосцю кінула: „Może by tak panowie ciszej rozmawiali, bo nie mogę się zdrzemnąć". Мы нічога не адказалі, але сэнс яе выказвання зразумелі: панюсі не спадабалася наша гаворка! Такіх прыкладаў можна прыводзіць дзесяткі, сотні.

Жывем у дэмакратычнай дзяржаве, канстытуцыя якой гарантуе кожнаму грамадзяніну свабоду. Чаму нам не карыстацца гэтым правам? Мне здаецца, што палякі, якія выязджаюць у замежжа (у Расію, Нямеччыну ці Францыю), гавораць там на польскай мове і ніхто ім на гэта ўвагі не звяртае. Такое ж можна сустрэць і ў Беластоку. Рускага ці румына ніхто не папракае, што ён папольску не гаворыць.

Па-мойму, тут мы самі вінаватыя, бо не патрапім шанаваць самых сябе і таго, што нам належыцца па законе. Адракаемся ад сваёй тоеснасці, мовы і культуры, ды і самі гаворым, што акуратна не ведаем хто мы такія. Няўжо бацькі нам гэтага не гаварылі?!.

Яшчэ нядаўна мой дубіцкі калега па пяру абвінаваціў мяне ў тым, што я быццам бы не шаную цяперашняй улады і неакуратна стаўлюся да „Салідарнасці". Гэта няпраўда. Я цаню кожнага, хто ўшануе маю тоеснасць. Не магу, аднак, адобрыць паводзін тых, пра якіх расказаў радны ваяводскага Сейміка д-р Ян Зенюк („Ніва" н-р 18). Хто чытаў публікацыю „З'ядуць нас", павінен задумацца, дзе яго месца. А месца праваслаўнага беларускага люду — у згуртаванай, брацкай сям'і. Не можа быць падзелаў сярод беларусаў. Калі з гэтым мы справімся, можам разлічваць на поспех. Спадзяюся, што тыя, каму мы даверылі на самаўрадавых выбарах у ваяводскі сеймік не падвядуць нас і адстаяць нашы інтарэсы.

**Уладзімір Сідарук**

# Беларусы, яднайцеся!

Калі я прачытаў у „Ніве" ад 2 мая артыкул п.з. „З'ядуць нас", то слёзы сталі мне ў вачах. Чаму так ёсць, што ў нас, у Ольштыне, прызначылі прадстаўніка п.с. нацыянальных меншасцей і камісія ўжо працуе!? У Ольштыне ўсе нам прыхільны. А чаму ў Беластоку, дзе многа беларусаў, і БГКТ, і БДА — няма? Я думаю, што ўсе меншасці павінны напісаць таму маршалку. Так, як гэта зрабілі мы ў Ольштыне; і справа адразу рушыла — праз тыдзень усіх запрасілі (пісаў я пра гэта ў „Ніву").

Беларусы, чаму вы такія кар'ерысты і ідзеце ў іншыя партыі? Такія, што пішуцца ў іншыя патрыі, нічога не вартыя; калі б прыехалі, так як я ў Ольштын, то і забылі б кім яны. Як мы выглядаем у вачах Еўропы?!

Калі б беларусы былі католікамі, то грошы знайшліся б. Панфілюк добра напісаў, што калі б у Югаславіі былі католікі, то і не было б гэтай вайны. І на Балгарыю бомбы кінуць — так свярбіць Амерыцы.

Хто чым вае, ад таго і згіне.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Літаратурная старонка (473)

## Знак эпохі

**У Мінску пачаў выходзіць новы літаратурны часопіс „ARCHE". Грэчаскае слова ўзятае ў загаловак азначае „першапачатак", „першапрычыну", „тое, што ляжыць у аснове". У рэдакцыйнай калегіі чаргуюцца прозвішчы дваццаціпяцігодкаў Валеркі Булгакава, Юрася Бушлякова, Дзяніса Раманюка, Вольгі Караткевіч з саракагадовымі аўтарамі: Уладзімірам Адамчыкам (Адам Глёбус), Генадзем Сагановічам ды вялікім перакладчыцкім аўтарытэтам Васілём Сёмухам. Сярод аўтараў спатыкаем такія прозвішчы як: Вітальд Гамбровіч, Умбэрта Эка, Чарлз Букоўскі, Хорхе Люіс Борхес, Даніла Кіш, Лешак Калакоўскі, Чэслаў Сэнюх, Кшыштаф Чыжэўскі. А побач іх містыфікацыі, пародыі і больш ці менш відавочныя спасылкі на навейшую беларускую літаратуру. Гаворыць галоўны рэдактар часопіса Валерка БУЛГАКАЎ:**

— Гэта часопіс інтэграцыі беларускамоўнай Беларусі ў агульнаеўрапейскі кантэкст. Мы робім стаўку на пераклады сусветнай, перш-наперш заходняй класікі на беларускую мову. У нас, у адрозненні ад расіян, украінцаў, палякаў, такога часопіса, які б займаўся перакладамі сучаснай літаратуры, не было. У Беларусі трансляцыя лепшых дасягненняў сусветнай думкі адбываецца праз рускую мову, а беларуская мова, як пасярэднік пры данясенні да чытача гэтых здабыткаў не выкарыстоўвалася.

***— Тэмай першага нумару вы зрабілі парнаграфію. Гэта правакацыя?***

— Парнаграфія была намі асэнсавана нетрадыцыйна, не як апісанне нейкіх палавых актаў ці аголенага цела, а хутчэй як сутнасная характарыстыка беларускага інтэлектуальнага ландшафту. Адной з найбольш відавочных і вымоўных рысаў беларускага грамадства сёння з'яўляецца яго зганленне, галеча, нечуваная дагэтуль нэндза, якая ахапіла ўсе без вынятку яго пласты. Менавіта парнаграфія паслужыла нейкім зыходны пунктам для нашых разважанняў, для распрацоўкі канцэптуальнага поля першага нумару. У яго аснову быў пакладзены пераклад „Парнаграфіі" Вітальда Гамбровіча. „Парнаграфія", дзе само паняцце парнаграфіі разглядаецца таксама ў досыць нетрадыцыйны спосаб.

***— Другі нумар прысвечаны постмадэрнізму.***

— Зразумела, што Беларусь не стварыла самастойна эстэтыку постмадэрнізму, якая ўзнікла на Захадзе ў постіндустрыйных грамадствах. Але і ў нас можна сёння ўбачыць нейкія зародкі постмадэрнізму. На Беларусі таксама назіраецца досыць цікавая для Еўропы сітуацыя змяшання розных народаў, эканамічных фармацый. У нас адначасова суіснуюць рэшткі старога і нейкія пачаткі новага, суіснуюць людзі з абсалютна рознымі светапоглядамі, канфесіямі і г.д. Зразумела, гэта немагчыма разглядаць як нейкі постмадэрнізм, але пры ўсім тым, такая тэма ўжо наспела ў беларускім асяродку інтэлектуалаў і апошнія гады вядуцца досыць зацятыя спрэчкі на гэтую тэму. Мы ставілі пэўную адукацыйную мэту — даць нашым чытачам, найперш студэнтам-гуманітарыям, максімум інфармацыі па гэтай тэматыцы. І таксама ўблытаць у яе, увесці ў яе нашы беларускія паралелі.

***— У двух нумарах часопіса, якія выйшлі да гэтай пары, важнае месца займае Лукашэнка.***

— Лукашэнка гэта знак нашай эпохі, увасабленне ананімнай свядомасці беларусаў, нейкага калектыўнага несвядомага беларускага грамадства. Фактычна, лёс Беларусі быў найбольш непрадказаны і найбольш траўматычны з усіх пятнаццаці былых савецкіх рэспублік. Толькі Беларусь вярнулася на пазіцыі рэсаветызацыі і русіфікацыі. Чаму гэтак здарылася, што было перадумовамі гэтай з'явы? Што чакае нас пасля? Гэтыя пытанні не даюць спакою беларускай інтэлігенцыі, якая не ўступае ў калабарацыю з сённяшнім рэжымам. І зразумела, сам Лукашэнка як нейкі топас, як увасабленне дэструкцыйных ірацыянальных інтэнцый, якія сягаюць нутра нашага беларускага грамадства, не мог быць абыйдзены ўвагаю.

*Інтэрв'ю ўзяў Мікола ВАЎРАНЮК*

***„Лукашэнка" — гэта толькі вяршыня айсбергу, імя якому беларускі народ. Гэты народ дагэтуль не ведае, кім ён ёсць на самай рэчы. Гэты народ жыве застыглым жыццём, аблытаны павучыннем разнастайных навалок, прынесеных імперскім геніем.***

***(...) Адпаведнік „кастрата" ў беларускай традыцыі — бязмен. Зыходзячы з яе бяз-мен прачытваецца як „недастаткова мужчынскі", „які страціў сваё чалавечае аблічча", „палавіна людскога". (...) Падобна кастрату, бяз-мен дэманстратыўна адпрэчвае жаноцкасць. Жаноцкасць уяўляе пастаянную пагрозу яго непаўнавартай мужчынскасці. На яе фоне раптоўна можа агаліцца галота бязмена-як-мужчыны, і, што значна больш важна, бязмен можа ўвогуле перастаць існаваць як мужчына.***

***(...) Прымеркаваўшы „лукашэнку" як кастрата, мы тым самым узялі на сябе абавязак пацвердзіць гэта прынамсі спекуляцыйна. Таму мы вылучаем у „лукашэнкі", па-першае, „комплекс кастрацыі — неўтаймаванае жаданне ўступаць у якія-любя сувязі (з Расіяй)" і, па-другое, „драму кастрацыі — немагчымасць выканаць ускладзеную на яго місію". Кастрат прагне ўсяго, але ў яго выходзіць нішто.***

*Валерка БУЛГАКАЎ, Геній Лукашэнкі. Дэканструкцыя аднаго міфу, „ARCHE", н-р 1/1998.*

*Іаланта КАБЗАР*

* * *

Адплыў сон
Прыплыў боль
У зморку сцен
Стомленых тугою
Прыпынілася маўчанне

Каханы мой
Ад'ехаў
За край свету

У абыякавасць

*Ірына РАДЗІВАНЮК*

* * *

Світанне пачынае дзень
Бачу вокны будучых свят
Чую гукі дзіцячых рук

Глянь па-над галавой
Свет ужо закароткі для ног

Купі ўсмешку і ідзі
Не затрымайся
Не агляніся

Не ўбачыш сябе

*Магда ШЫМЧУК*

* * *

Адыходзіш.
Твая смерць
канчае свет.

Параненыя стопы,
калі я бегла да цябе.
Тваё адзенне —
прамоклае ад слёз.
І толькі свечы
пахнуць тваім целам.

Я сказала твайму сыну,
што ты заснуў...
Каб ён чакаў
тыдзень, дзень, гадзіну...

Дай сваім вуснам сказаць
развітальнае слова
хоць сабаку і хаце.

*Юры БАЕНА*

* * *

Адзінокі ў полі
забыты ўсімі

непарушны
валун гранітны —

памятае!

*Міра ЛУКША*

* * *

Рэкі выйшлі з берагоў
Іду па дне чырвонага мора
Не першы раз не апошні

Імя
аддзельнае ад мяне
босае ступае
руслом старарэчча
у вільгаці ўсё
ў чырвонай імгле
а ўсё ж сухакрылае
трапечацца
у сухім горле-калідоры
у якім жорстка слову і рэчы

імя з імёнамі
пераліваецца ў кроплях
у люстры ракі
дзе бераг левы — правы
і крыло адкрылена
ў бок іншы

*Марыля БАЗЫЛЮК*

* * *

ля іржышчаў восеньскіх
каласы прамінання
дзе неймавернай тугой
палотны крываўнікаў
шэпчуць здзіўленне

прагна кранае сэрца
рабінавая ветразь

і гнуткай дзічкі
церпкі неспакой
б'е паклон вятрам
што як багі
на п'едэсталах

*Барыс РУСКО*

### Ля імгнення

Паток імгненняў
утаймаваць,
зацугліць пранікальнасць?
Скажыце, як?
Дзень уцякае ў ноч,
а ноч — у дзень,
кветка — у зерне,
зерне — у кветку.
А з майго цела
беззваротна
ўцякае час.
Адно думкі
і словы
спыніліся
разгублена
на імгненне.

*Міра ЛУКША*

## Аўдосіна неба

— Намалюй мне, Федзя, на полапе сонца ды хмаркі, калі ўжо фарбаваць будзеш, — сказала баба Аўдоська. Калісь бяліла бэлькі глінкай-сінькай перад кожным святам, пэндзлем з мяккае рачное травы. Але пакойны Сідар роўна абіў іх плітай, памаляваў васільковай алейнай фарбай, і цяпер ужо клопату няма. Але ж выцвіла ўсё. Маляваць нанава трэба. Грошы Аўдося мела з рэнты, невялікія, але на такі рамонт хопіць. Ну, які там вялікі ёй трэба, бо ўсё паскрэбла, памыла, але ж столі сама не памалюе, на драбіну ж не палезе! Ну, а каб цікавей было — давай, Федзя, тыя сонца ды вобалачкі. Нескладаная ж справа.

— Я маляр пакаёвы, не мастак, — закіпеў гонарам Федзя Барбушын. — Вам яшчэ сонца ды хмары! Яшчэ можа і месяц! Хто то бачыў такое, палацы!

— А што, не зможаш? — здзівілася бабуся. — То ж і дзіця, і тое сонца першае малюе, бо бачыць. Ну, пляшку дам.

— І за пляшку, і за грошы — на такую дурноту на драбіну не палезу, дзякуй! Смешная вы кабета, баба Аўдося.

— То ж не з цябе смяяцца будуць. Намалюеш добра, то і пахваляць яшчэ.

— Як хочаце, то за пляшку вам зробяць гэта студэнты, яны ў Карпа пасяліліся. Такія то жарты любяць. Да таго — замежныя, хоць па-нашаму гавораць.

Патэпала з калочкам бабуля да маладых, а маляваць яны сапраўды ўмелі — у акадэміі ў Мінску маляваць навучаныя. І вывелі яны на бабулінай столі і сонца, як жывое, паўднёвае, гарачае, і вобалачкі белыя, пёрыстыя, і бурыя хмары, і ружовыя як пад захад, а сярод іх нават самалёцік цягне белую смужку, а над печкай — срэбны маладзік сярод зорак.

Цешыліся, смяяліся. І Аўдося, лежма ўжо, у нядузе, успамінае тую радасць, той смех, гледзячы на сваё неба.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



# Юр'еўскі карагод

Ужо другі раз дзеткі, бацькі і настаўніцы з беларускага прадшколля ў Беластоку падрыхтавалі пастаноўку „Юр'еўскі карагод”. Прыгадайма, спектакль меў сваю прэм'еру тры гады таму. Зараз дайшло многа новых акцёраў — дзетак і бацькоў. Спектакль знаёміць з веснавымі абрадамі, гульнямі, народнымі павер'ямі і старажытнымі юр'еўскімі песнямі. Між іншым, гаспадар абыходзіць са свянцонай вадой статак, каб добра і здарова ўвесь год той пасвіўся, дзяўчаты мыюць твары расой дзеля прыгажосці, а хлопцы, каб дужымі быць, качаюцца ў траве.

Успамінаецца пра старажытную варажбу, паводле якой вечарам да Юр'я выводзілася на пашу коней. Такім чынам „завязвалі” ваўкам зубы і яны ўвесь год і не глянулі на коніка.

Многа радасці прынесла таксама гульня ў „Ваўка і авечак”.

Варта назваць таксама самых бліскучых выканаўцаў. Вядучыя ролі — „Гаспадыню” і „Гаспадара” ігралі **Аліна Ваўранюк** і **Пятро Юшчук**, журналіст **Мікола Ваўранюк** паказаўся (басаnож) як „Самы старэйшы ў грамадзе”.

Многа радасці прынесла гульня ў „Ваўка і авечак”. Ролю „Ваўка” іграў **Ежы Стшэльчык**, а „Пастушка” — **Андрэй Жамойда**. Была таксама чарадзейная „Вядзьмарка”, якую прадставіла **Рэната Більмін**.

Сярод дзяцей вылучаліся **Оля Стшэльчык**, **Оля Більмін** і **Ярак Якацюк** а таксама іхняя настаўніца **Альжбета Бурачэўская**.

18 мая г.г. тэатр выступіў на сцэне Дома культуры ў Гарадку. Дзень пазней спектакль паказалі ў прадшколлі. У планах паездка ў Пуньск.

ЗОРКА

*Фота Янкі КАРПОВІЧА*

# Кропелька

Жыла-была дажджавая Кропелька. Яна нястомна працавала. Капне з хмары на зямлю. Напоіць яе. А потым выпарыцца і зноў у паветра ўзляціць. Збяруцца такія кропелькі ў адно воблака. Калі іх стане вельмі многа, воблака цямнее ад цяжару, ператвараецца ў хмару — і ўсе кропелькі, не ўтрымаўшыся, падаюць уніз праліўным дажджом.

Аднойчы Кропелька не паспела даляцець да зямлі: яе падхапіў Паўночны Вецер. Пачаў ён насвістваць пра незвычайную казачную краіну, з якой прыляцеў. Пачаў упрошваць Кропельку кінуць родны кут і паляцець разам з ім. Згадзілася Кропелька.

Тады Паўночны Вецер сарваў з бярозы лісцік і панёс на ім Кропельку ў далёкі край.

Прыляцела Кропелька. І што ж?

Убачыла яна шэрае халоднае неба. І такое ж халоднае сонца. І такую ж халодную заснежаную зямлю. Пачала Кропелька замярзаць. Яшчэ крыху — і стала б яна ледзяшом.

Спалохалася Кропелька, што згіне. І пачала прасіць Паўночны Вецер аднесці яе назад на радзіму.

Зжаліўся Паўночны Вецер. Аднёс яе.

Кропелька не магла дачакацца, калі прызямліцца бярозавы лісцік. Яна скацілася з яго на родную цёплую зямлю гарачай слязой, каб ніколі больш не расставацца.

**Алена КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВА**

*Жывая кніга прыроды*

Авяр'ян ДЗЕРУЖЫНСКІ

## Чэрвень

Чэрвень —
Чырвань,
Расквітнеўся
Чабарок.
Выйшаў Янка
На палянку
Збіраць ягады
У збанок.
А суніцы,
Як ліхтарыкі,
Гараць.
— Вунь лісічкі
Невялічкі! —
Дзеці голасна
Крычаць.
Чэрвень —
Чырвань.
Сонца свеціць.
Чэрвень —
Першы
Летні месяц.

# Польска-беларуская крыжаванка № 23

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Grusza | Ryzyko | Bazar | | Prawo | Biedota | | | Licho | |
| Błoto | | | | | | Szlak | | Jar | |
| Sutanna | | | | | Stan | | | | |
| | | | | | Tora | | | | |
| Gąsior | | | | | | | | | |
| Chrobot | | | | | Czołg | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 19:** Гадавіна, гарт, зорка, падарунак. Дарога, царква, міг, нажын, дар, толк.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі: **Дарота Барташэвіч** з Махнатага, **Сільвія Пятрышык** з Кленік, **Марцін Лукошык** і **Івона Лісавец** з Гарадка. Віншуем!

# Прыемна і сардэчна

Так нас прывіталі 24 красавіка г.г. у Рыбалах на XVII Сустрэчах „Зоркі”. З самай раніцы свяціла сонца і пэўна таму ўсе былі ў радасным настроі. Я з аднаго боку цешылася, што еду на сустрэчы, але з другога — баялася ці змагу намаляваць іконку. Мой страх і няўпэўненасць адразу прапалі, калі сардэчнай усмешкай прывіталі нас айцец Рыгор Сасна з матушкай Антанінай.

Працу, як заўсёды, пачалі мы пасля кароткага малебна і асвячэння крыжа. Вельмі старанна ўсе ўзяліся за працу. Цяжка было падысці да крыжа. Спадар Алег Кабзар дапамагаў нам у падборцы фарбаў, а свяшчэннік заахвочваў да працы.

Я малявала іконку святога Савы і здаецца, што выйшла мне нядрэнна. Захапіла мяне іконка размаляваная Агнешкай Максімюк з Рыбал, якая прадстаўляла Хрыста і Самаранку.

Перашкаджаў нам трошкі малы дожджык, але, як сказаў святар, і з таго трэба цешыцца. Я пазнаёмілася тут з многімі сябрамі. Дзяўчаты з Рыбал расказалі нам аб сваёй вёсцы. Я даведалася, што яны, як і мы, працуюць у тэатральным гуртку. Мае новыя сябры рыхтуюць спектакль на агляд абрадавых калектываў, куды паедзе і наша тэатральная група. Думаю, што неўзабаве зноў сустрэнемся.

Маёй марай — пабачыць гэты размаляваны крыж ужо пастаўлены на сваё месца.

**Наталля БАБУЛЕВІЧ, IV „а” кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Думаюць пра універсітэт

Віялета Цар, Гося Базылюк, Кася Камінская і Томак Зарэмба, вучні VIII класа ПШ у Кнарыдах, думаюць ужо пра вучобу ва універсітэце. Менавіта таму збіраюцца ў бельскі беларускі ліцэй.

— Мае любімыя прадметы гэта геаграфія, матэматыка, беларуская мова, спорт, — кажа Віялета.

Дзяўчына, як і яе сябры, толькі з восьмага класа пачала вывучаць беларускую мову. І ўжо акуратна ўмее выказаць свае думкі па-беларуску.

— На ўроках мне найбольш падабаецца сучасная літаратура — паэзія Ніла Гілевіча, апавяданні Васіля Быкава.

Гося Базылюк, як і Віялета Цар — выдатніца.

— Толькі часам здараюцца чацвёркі, — кажа Гося.

Яе любімым прадметам з'яўляецца польская мова.

— Я цікаўлюся біялогіяй, хіміяй, матэматыкай і спортам, — кажа Кася Камінская.

Падобныя зацікаўленні таксама ў Тамаша Зарэмбы. У будучыні хоча ён штудзіраваць медыцыну.

Усе мае субяседнікі старанна вывучаюць беларускую мову, бо, як кажуць, яна дапаможа ім у рэалізацыі жыццёвых планаў.

**ЗОРКА**

*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*

# Вершы Віктара Шведа

## *Навошта вучыцца*

— Ленавацца болей хопіць! —
Бацька лае сына, —
Ты — разумны надта хлопец,
Вучыцца павінен!

— Не павінен ты сварыцца, —
Азваўся сын сумна. —
Ну, навошта мне вучыцца,
Калі я — разумны?

## *Соня*

— Праспіш школу пэўна! —
Маці будзіць сына. —
Заспявалі пеўні,
А ты спіш няспынна!

— Хай сабе спяваюць,
Калі ім не спіцца,
А я задрамаю
З калыханкай быццам.

## Соня

*Музыка Генадзя Шэмета*
*Словы Міры Лукшы*




*Хто спявае песню-соню?*
*Хтосьці ў сівым жупане.*
*Пры ім дрэмле срэбны конік,*
*Што здалёк сюды прыбег.*

*Замарыўся бедны конік,*
*Узмакрэў ды збіўся з ног...*
*А для вас спявае гномік,*
*Што ўзабраўся на парог.*

*Спіце, дзеткі, спіце моцна*
*І ты, конік, адпачні.*
*На дварэ заснула ночка,*
*Толькі месячык звініць,*

*Б'е праменьчыкам у шыбу,*
*Забягае у ваш дом,*
*Коніку ўплятае ў грыву*
*Быццам стужку-казку — сон.*

# Увага конкурс!

**Артыкулы квартала (II)**

Рэдакцыя „Зоркі” аб'яўляе конкурс на артыкул квартала, які друкаваўся на нашых старонках ад 15 сакавіка па 30 мая г.г.

З апублікаваных 31 допісаў вылучаем артыкулы багатыя зместам і спелыя па форме.

**I. Нашы прапановы-назначэнні:**

1. **Добрае прыносіць радасць** — *апавяданне*, **Марцін Анішчук**, VII кл. ПШ у Новым Корніне.
2. **На Сустрэчах... крадуць ды мардуюць!** — *фельетон*, **Жанэта Роля**, VIII кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.
3. **Рэкс-разбойнік** — *фельетон*, **Анэта Яканюк**, VIII кл. ПШ у Нарве.
4. **З авечкай у Еўропу** — *фельетон*, **Бася Андраюк**, VII кл. ПШ у Дубічах-Царкоўных.
5. **Ёсць Куль!** — *інфармацыя*, **Гражына Пашкоўская** і **Мажэна Жменька**, VIII „е” кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.
6. **Пасхальная радасць у маёй сям'і** — *нарыс*, **Патрыцыя Кос**, VIII кл. ПШ у Ласінцы.
7. **Вялікая сустрэча** — *інфармацыя*, **Наталля Бабулевіч**, IV „а” кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.
8. **Маляванне крыжа ў Рыбалах** — *інфармацыя*, **Бася Жэрунь**, V „ц” кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.
9. **Дзеці — гэта аздоба прыхода** — *інтэрв'ю з айцом Рыгорам Сасною*, **Міхась Сцепанюк**, **Лукаш Верамяюк**, **Тамаш Яўфімюк** — вучні ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

**II. Задача чытача:**

З дзевяці прапаноў-назначэнняў трэба выбраць адзін артыкул.

Адказ з прозвішчам аўтара (-аў) і загалоўкам артыкула просім даслаць у рэдакцыю „Зоркі” **да 15 чэрвеня г.г.**

Сярод удзельнікаў конкурсу разыграем дзве ўзнагароды:

— **польска-беларускі слоўнік,**

— **відэа-касету з беларускамоўнай казкай „Прыгажуня ў сонным лесе”.**

Узрост удзельнікаў конкурсу — неабмежаваны.

**III. Узнагарода пераможцу**

Пераможцам стане аўтар (-ры), які набярэ найбольш галасоў чытачоў. Яму „Зорка” падрыхтавала рэчаву ўзнагароду за 100 злотых.

Дапускаецца таксама ініцыятыва прыватных асоб, якія самі могуць узнагародзіць любімых аўтараў.

Узнагароду „Зоркі” ў выглядзе фотарэпартажу атрымаюць таксама аднакласнікі пераможцы.

**ЗОРКА**

*Вучні VIII кл. ПШ у Кнарыдах з настаўніцай беларускай мовы Надзеяй Аврачук.*



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Любчыны прыгоды

***(амаль дзённік)***

**Дзверы беларускія**

Прыходзіць татка дахаты, а Любачка яму кажа:

— А мы сёння з мамаю паўз дзверы беларускія ішлі.

Татка адразу скеміў, дзе гэта і што, але правярае дачушку:

— А якія ж яны?

— Ну, такія вялікія. Чорныя.

Усё так, думае татка, а сам цікавіцца:

— А чаго ж вы ў іх не зайшлі?

— Дык там жа вас не было.

І то праўда, думае татка: чаго ў тыя дзверы заходзіць, калі няма там нікога. Яны з дачушкай неаднойчы на суполку беларускую хадзілі — па суботах, але праз тыдзень, — а збіралася яна ў Этнаграфічным музеі, а на ўваходзе ў гэты будынак — якраз во гэткія дзверы, як Любка сказала: высокія, каваныя, з чарненнем. Ледзь расчыніш — такія тоўстыя. А Любцы болей запомнілася, што чорныя.

Цікава татку: што ж яны з маткай у тым месцы рабілі?

— А куды вы паўз іх шлі?

— У Рускі музей хадзілі... „Алёнушку” бачылі...

Хто прыедзе ў Піцер, дык ведайце: у ім усё побач: і Рускі музей, і Дзверы Беларускія: нат малое не стоміцца пехатою прайсці — адзін ля аднаго будынкі стаяць.

***(працяг будзе)***

**Анатоль КІРВЕЛЬ**

**Калектыву „Расспяваны Гарадок" споўнілася 45 гадоў**

# Соль зямлі гарадоцкай

Калі пару гадоў таму мне давялося сустрэцца з Нінай Мушынскай у Доме грамадскай апекі ў Ялоўцы, яна марыла: „Во, каб дажыць да 45-годдзя калектыву!" Марыла, бо гэта быў у вялікай ступені яе калектыў. Яна была яго стваральніцай і яго маторам на працягу многіх-многіх гадоў. Фактычна Ніна Мушынская, амаль дзевяностагадовая сёння жанчына, не выступае ўсяго некалькі гадоў.

Так, дачакала і прыехала! Сын Ігар прывёз маці з Ялоўкі на юбілейную ўрачыстасць у Гарадок. І калі глядзіш сёння на гэту ўсё ж такі пажылую, перажыўшую шмат аперацый і пахаваўшую сына жанчыну, не заўважаеш у яе старасці. Так і здаецца, што зараз стане ў шарэнзе спявачак і гучным голасам завядзе частушкі, якія складала калісь сама.

Расказвае Вольга Мядзведзева, якая ўжо не спявае ў калектыве, але праспявала сорак гадоў:

„У першым туры была Ніна Мушынская, яе сястра, Надзя Парэмбская ды я. Збіраліся мы тады ў гмінным доміку культуры. У той час у Гарадку такога



*Ніну Мушынскую на юбілейную ўрачыстасць прывёз сын Ігар.*

будынка Дома культуры, як цяпер, не было. Ніна Мушынская прыходзіла на рэпетыцыі з гітарай. Першае выступленне адбылося 8 сакавіка 1954 года, на Дзень жанчын".

Ад гэтага часу да спявачак пачалі далучацца новыя людзі. Рэпетыцыі праводзіліся рэгулярна і заўсёды было дзе выступіць. Ад 1967 года з калектывам працуе музычны кіраўнік і акампаніятар Сцяпан Копа, вялікі знаўца і збіральнік беларускай народнай песні. Ён навучыў жанчын з калектыву, як трэба правільна спяваць, паводзіць сябе на сцэне, вымаўляць словы. Вось і сёння чую я, як на генеральнай рэпетыцыі Сцяпан Копа папраўляе некага: «„Каго", а не „каво"!»

Калектыў разросся і спевы яго сталі чутны далёка па-за межамі Гарадка. Спявалі яны не толькі ў сваім асяродздзі, але па ўсёй Беласточчыне, ды і далей: у Варшаве, Гданьску, Вэнгажэве і іншых мясцовасцях, былі таксама на Беларусі.

Калі напаткала некага з членаў калектыву гора, усе былі сэрцам з ім, памагалі, падтрымлівалі, як умелі, а як скончылася жалоба, прыцягвалі яго ізноў у калектыў. З песняй не будзеш адзінокай, пераконвалі яны сяброўку, Ірэну Паўлючук, якая страціла самага блізкага чалавека — дачку — у катастрофе самалёта. Нязвыкла дружны гэта калектыў.

Другой пасля Ніны Мушынскай хутка стала галасістая Ніна Цыванюк, якая прыйшла ў калектыў амаль у пачатку. Калі Ніна Мушынская развіталася з калектывам, яна ўзялася кіраваць „Расспяваным Гарадком". Сёлета на Фестывалі беларускай песні Ніна Цыванюк заваявала першае месца сярод салістак у катэгорыі фальклорнай песні. Песні, якія яна спявала, чула ад сваёй бабулі.




*„Расспяваны Гарадок".*

Не было, бадай, такога года, каб гарадоцкія спявачкі не прывезлі „трафеяў" з раённых і цэнтральных аглядаў беларускай песні, ды з розных конкурсаў, у якіх яны бралі ўдзел. Заўсёды яны былі аднымі з найлепшых, заўсёды наперадзе, давалі прыклад іншым. Байкія, энергічныя, яны спяваюць амаль на ўзроўні прафесіянальнага калектыву.

Сёння ў калектыве трынаццаць асоб: кіраўнік калектыву Ніна Цыванюк, Раіса Дылько, Ніна Лапінская, Галіна Нос, Марыя Салагуба, Ніна Харужая, Тамара Бурачэўская, Галена Кот, Ірэна Паўлючук, Галіна Хшаноўская, Марыя Врублеўская, Галена Ляховіч і музычны кіраўнік Сцяпан Копа, які два гады таму святкаваў трыццацігоддзе свайго супрацоўніцтва з гарадоцкім калектывам. Ды і наогул большасць членаў калектыву гэта людзі, якія праспявалі ў ім шмат гадоў. Нядаўна вярнулася ў калектыў (пасля вялікага перапынку на выхаванне траіх дзяцей) прыроджаная салістка Марыя Врублеўская, таксама лаўрэатка апошняга Фестывалю беларускай песні.

Цяпер гарадоцкія спявачкі маюць месца на рэпетыцыі. Дом культуры заўсёды гатоў іх прымаць, бо яны сапраўды тут „соль зямлі", як сказала віцэ-дырэктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Барбара Пахольская. А, зрэшты, і дырэктар Гміннага асяродка культуры Тамара Бурачэўская таксама неразлучна з калектывам, у якім спявае на працягу многіх гадоў.

Ну, і войт Гарадоцкай гміны Яўген Семянюк адносіцца да свайго рэпрэзентацыйнага калектыву надта прыхільна. Нягледзячы на гэта, сёння немагчыма ім абысціся без спонсараў, каб паехаць некуды або правесці тую ці іншую ўрачыстасць.

Святкаванне саракапяцігадовага юбілею калектыву адбылося ў Гарадку 22 мая. І, бадай, ад яго саракагоддзя яшчэ не было тут такога свята.

Зала Дома культуры ўжо запоўнена людзьмі. Заспявалі, засвісцелі, затрашчалі птушкі. Адчыняецца заслона — і перад гледачамі паўстае, быццам стэрэапанарама, шматколерны ружова-зялёны луг, над якім лётаюць крыху сюррэалістычныя матылі і дзе растуць кветкі нязвыклай прыгажосці. Усё гэта выканала Марыя Мялешка, мастачка з ГОКа, а школьнікі дапамагалі ёй.

У зале запахла палявымі кветкамі і пад гэтыя пахі на сцэну павольна ўваходзяць спявачкі-прыгажуні з „Расспяванага Гарадка". Ліюцца песні: „Ой, калі ж той вечар", „Чаму ж пам не пець", „Кавалёк", „Ой, коцяцца два яблычкі" (у выкананні вядомага дуэта Галена Кот і Ірэна Паўлючук), „Давай, дружок" (салістка Марыя Врублеўская), „А ў тым садзе", „Ой, я маю чорны бровы", а таксама была і славутая „Бульба" ды іншыя. Песні вядомыя і менш вядомыя, найпрыгажэйшыя. Відаць, пазайздросцілі яны калектыву „Сваякі" з Беларусі і заспявалі песню з яго рэпертуару „Ляцеў сокал", заўважыла Валянціна Ласкевіч.

Спявачкі выконваюць гэтыя песні з чароўнымі ўсмешкамі на твары, быццам бы ўсе яны былі маладзенькімі дзяўчатамі і не было за іх плячыма багажу гадоў. Спяваюць, як ніколі. Вядома, такім юбілеем не можа пакуль што пахваліцца ніводзін калектыў сярод шматлікіх беларускіх народных калектываў Беласточчыны.

Вядучы ўрачыстасць войт Яўген Семянюк першую прывітаў Ніну Мушынскую, стваральніцу калектыву, а толькі тады ўжо, бадай, рады чатыры знатных гасцей з Варшавы, Беластока і Гарадка. Сёння мы святкуем тое, што Ніна Мушынская пачала, падкрэсліў ён. Папрасіў таксама мінутай цішыні памянуць памяць добрага спевака і справядлівага чалавека Юркі Налівайкі, які амаль усё сваё жыццё спяваў у якасці саліста з гарадоцкімі жанчынамі. Памёр у мінулым годзе.

Многа цёплых слоў было сказана гасцямі ў адрас спявачак. Ежы Завіша, дырэктар дэпартамента да спраў культуры нацыянальных меншасцей Міністэрства культуры РП, цешыўся, што сярод нас ёсць Ніна Мушынская, якой неўзабаве споўніцца дзевяноста гадоў, і сардэчна віншаваў „грамадскага збіральніка песень" Сцяпана Копу.



*Войт Яўген Семянюк віншуе юбілярак.*

Беларускі консул у Беластоку Мікалай Крэчка назваў Гарадок часткай цуду Мікалая Цудатворца і абяцаў калектыву, што можа разлічваць на падтрымку Консульства РБ.

Эдмунд Сухадольскі, намеснік старшыні Сейміка Падляшскага ваяводства, падкрэсліў, што ён значна вышэй цэніць самадзейнікаў, чым прафесіяналаў. Калі гэта прафесія, дык людзі працуюць за грошы. Самадзейнікі спяваюць з патрэбы сэрца, з замілавання да роднага.

Выступалі і ўручалі кветкі хто толькі меў жаданне. Былі сярод іх і старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі, пасол Сейма, і Марыя Шышка, старшы інспектар ад культуры ў Ваяводскай управе, і Бася Пахольская, вялікі сябра гарадчан, якая назвала гэтых спявачак „соллю зямлі". А віцэ-консул Павел Латушка ўквеціў урачыстасць, правёзшы проста з граніцы аўтобус, поўны членаў жаночага клуба дыпламатаў з Мінска. Сярод іх — жонкі паслоў Украіны, Балгарыі, Арменіі, Туркменіі і іншых краін, акрэдытаваных у Беларусі. Некаторыя з іх толькі цяпер даведаліся, што ў Польшчы жывуць і беларусы.

Была падзяка ад гарадоцкіх улад і кветкі на сцэне не толькі тым, што спяваюць сёння, але і тым, што спявалі калісьці: Ніне Мушынскай, Вользе Мядзведзевай, Надзі Парэмбскай, Ірэне Свентахоўскай, Галіне Паплаўскай.

Беластоцкі калектыў „Крыніца", які працуе пры Беларускім таварыстве пад упраўленнем Віктара Маланчыка, прывёз у падарунку не толькі кветкі, але і цэлы букет сваіх песень, якія публіка прыняла бурай апладысментаў.

Эх, каб дажыць да пяцідзесяцігоддзя! Праўда, пані Ніна?!

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Памяці Мікалая Чарнецкага



*Новы помнік асвяціў айцец Мікалай Каліна. Злева стаяць: Яўген Вапа, Вячаслаў Харужы, Агрыпіна Буйко.*

*На адкрыццё*
*намагільнага помніка*

Не здзейсніў ты жыццёвых мар
знаходзячыся пад прымусам.
Ты апынуўся між ахвяр
Найбольш свядомых беларусаў.

Усе мы сёння у журбе,
Твайго жыцця быў шлях кароткі.
І неба плача па Табе
Ў ад роду сотыя ўгодкі.

**Віктар ШВЕД**
*Беласток, 23 мая 1999 года.*

Сапраўды, у дзень, калі Віктар Швед стварыў гэты верш і калі асвячалі новы намагільны помнік доктару Мікалаю Чарнецкаму, надвор'е рэзка перамянілася. Пасля гарачай, яснай майскай суботы, нахлынула халадэча і час ад часу ішоў дождж. 55 гадоў не гаварылася ўголас пра пакутную смерць Мікалая Чарнецкага. Яго прозвішча было вядомае толькі вузкаму кругу гісторыкаў, сяброў ды сям'і.

— Пра гэту постаць я даведаўся шэсць гадоў назад, — кажа гісторык Вячаслаў Харужы.

— У рэдакцыю „Часопіса" зайшоў спадар Кірмуць, былы настаўнік з Крушынян і расказаў пра вялікага беларуса з Азяран-Малых. Пазней я адшукаў звесткі пра доктара Мікалая Чарнецкага ў амерыканскім „Беларусе" і „Ніве". Чатыры гады ішлі пошукі магілы і толькі ў 1997 годзе, дзякуючы дапамозе айца Івана Федарчука з царквы Усіх Святых, што на Выгодзе ў Беластоку, удалося адшукаць магілу.

Яшчэ напрыканцы таго ж года Вячаслаў Харужы выступіў на канферэнцыі БГТ у Саколцы з дакладам пра д-ра Чарнецкага, які пазней быў надрукаваны ў „Białoruskich Zeszytach Historycznych" н-р 9 за 1998 год. 23 мая, у сотыя ўгодкі з дня нараджэння героя, БГТ наладзіла асвячэнне новага намагільнага помніка. Усё пачалося ўрачыстай літургіяй у могільнікавай царкве. Затым айцец Мікалай Каліна, прыхадскі хор і больш за сотню народу накіраваліся на магілу Мікалая Чарнецкага. Сярод сабраных арганізатары прывіталі старшыню Беларускага саюза ў РП Яўгена Вапу, старшыню БДА і раднага горада Беластока Пятра Крука, старшыню БГКТ і пасла ў Сейм РП Яна Сычэўскага, каардынатара БДА мецэнаса Пятра Юшчука, старшыню Асацыяцыі беларускіх журналістаў Юрку Хмялеўскага і генеральнага консула РБ у Беластоку Мікалая Крэчку. Прысутнічала таксама сям'я д-ра Мікалая Чарнецкага, яго хросная дачка Агрыпіна Буйко (з дому Чарнецкая) і Анатоль Чарнецкі з Беластока.

Пасля паніхіды і асвячэння намагільнага помніка голас узялі гісторыкі Вячаслаў Харужы, д-р Лена Глагоўская і Яўген Вапа.

Як адзначылі арганізатары, галоўным спонсарам новага помніка быў блізкі сябар д-р Чарнецкага, выдатны лекар з Амерыкі (яго імем названы шпіталь для састарэлых у штаце Мінесота) Мітрафан Смаршчок. Больш за чвэрць коштаў сфінансавалі ўдзельнікі асвячэння, якія шчодра адгукнуліся ў падтрымку ідэі гісторыкаў. Аўтарам помніка быў вядомы беларускі літаратар і заадно каменячос Міхась Андрасюк з Гайнаўкі. Варта адзначыць, што пабудову помніка выканаў ён грамадскім чынам. Намагільны помнік складаюць гранітная пліта з беларускім надпісам і стары жалезны крыж, які дагэтуль адзначаў магілу. На асвячэнне прыйшлі прадстаўнікі тэлебачання, радыё, прэсы. Удзельнікі атрымалі новы нумар „Нівы" з артыкулам пра М. Чарнецкага.

Пасля поўдня надвор'е зноў перамянілася. Адплыла халадэча і дажджы. На зямлю зноў вярнуўся светлы, зялёны май.

**Ганна КАНДРАЦЮК**
*Фота аўтара*



*Памятны здымак над магілай М. Чарнецкага.*

# Ікона Божай Маці ў Райску



*Царква ў Райску (1995 г.).*

Самая ранняя пісьмовая згадка пра Райск паходзіць з XVI стагоддзя — з ліста аб наданні зямлі райскай бельскаму памешчыку. У „Люстрацыі Падляшскага ваяводства" ад 1576 г. чытаем: *sieło Raysk... cerkiew ma jedną włókę...* У згаданым дакуменце згадваецца, што да фальварка Сталавач належала *wójtowstwo Rayskie ze siołami Raysko włók 51 i Orzechowicze włók 34.* У падаткавай кнізе ад 1578 г. пералічваецца духаўнік *cerkwi Rayenskiej.*

У XIX стагоддзі ў царкоўным архіве захоўвалася грамата караля Аўгуста I ад 1671 г. аб наданні *2 włok pustych we wsi Rayskie nazwaney do starostwa bielskiego należącey Wielebnemu Symeonowi Mackiewiczowi prezbiterowi cerkwi do obrazu Matki Bożej Cudownego.* Нябеснымі заступнікамі гэтай царквы былі святыя апосталы Пятро і Павел.

Паводле традыцыі, прычынай пабудовы царквы стала з'яўленне цудадзейнай іконы Божай Маці ў лесе каля вёскі Храбалы, ва ўрочышчы Глаўкова, пры Туравай крыніцы. Уладальнік фальварка Сталавач, Голдак, пабачыўшы многія цудоўныя аздараўленні паломнікаў ад іконы Божай Маці, вырашыў пабудаваць на сваёй зямлі храм і перанесці сюды цудадзейную ікону. Воз, на якім перавозілася ікона, запрэжаны быў у валы. Калі воз даехаў да Райска і трэба было павярнуць у напрамку фальварка, валы адмовіліся слухаць паганятых. У воз запрэглі яшчэ некалькіх валоў, але і яны не маглі скрануць воз з месца. На просьбу сваіх падданых памешчык Голдак пабудаваў драўляную царкву Пакутнай іконы Божай Маці, званай „Пяценкай", якую ўшаноўваюць у 10 пятніцу пасля Вялікадня. Ікона была змешчана ў алтары. Гэты расказ спісаны быў з „Райской Летописи церковной".

Больш вестак пра цудадзейную ікону з Райска знаходзім у „Гродненском календаре" з канца XIX стагоддзя. У ім чытаем: *древняя место особенно чтимая святая икона Богородицы, считавшаяся за чудотворную еще в 16 и 17 веках, откуда же и когда оно о том — сведений не имеется — нарочитое празднество Ей с людным народным собранием богомольцев с издавна совершается в 10 пятницу после Светлого Воскресения Христово, писана на липовой доске толщиною в дюйм, шириною до 7 а вышиною до 9 вершков — Лик Пречистыя с Богомладенцем на десной руке, совершенно темный, от давнейшей давности едва даже заметный. В 1880 году по абновлении ея устроена для нея серебраная риза средством усердных прихожан, в Московской мастерской Хлебникова.*

У 1915 г. падчас бежанства ў Расію мясцовы настаяцель а. Васіль Кудасаў узяў ікону з сабою. Ікона ў Райск ужо не вярнулася.

Фальварак Сталавач заснаваны быў у палове XVI стагоддзя ў Бельскім старастве. У ім адбывалі паншчыну сяляне з 21 каралеўскай вёскі. У 1910 г. фальварак быў парцэляваны і да сённяшняга дня нічога ад яго не засталося.

У Храбалаўскім лесе, на месцы з'яўлення цудадзейнай іконы была ўзведзена каплічка. У 1939 г. была яна разбурана. У 1984 г. на гэтым месцы пабудаваны быў драўляны храм.

У 1942 г. у Райску здарылася трагедыя. Немцы спацыфікавалі вёску: расстралялі 149 чалавек, астатніх выселілі, а будынкі спалілі. Вёска спыніла існаванне. Толькі пасля заканчэння вайны людзі сталі вяртацца ў Райск. Рэлігійнае жыццё ў той складаны час гуртавалася пры царкве ў Плёсках, а пасля прыстасавання барака на царкву набажэнствы сталі здзяйсняць на месцы, у Райску. У 60-х гадах у Райск на месца колішняга храма была перавезена царква з Люблінскага ваяводства. У 1997 г. на могільніку была пабудавана мураваная царква ў гонар св. мучаніцы Параскевы.

Пасля трагічнага перыяду ў жыцці Райскага прыхода, дзякуючы пастаяннаму заступніцтву Божай Маці на працягу стагоддзяў, адрадзілася з попелу жыццё Царквы Хрыстовай.

**(агс)**

# Вызвалялі нас

**Расказ Валянціны САЕВІЧ са Старога Ляўкова, народжанай у 1928 г.**

**У Ляўкове**

Да вайны хадзіла я ў школу ў Нараўцы, бо ў Ляўкове былі толькі чатыры класы; пахадзіла адзін год і пачалася вайна. Прыйшлі саветы і гаварылі нам: „Мы вас освободили"; вызвалілі нас ад хлеба, ад солі... Некаторыя то чакалі саветаў, гаварылі: дадуць свабоду, бо ж пры санацыі то свабоды не было. Я ўжо ўсяго дакладна не помню і вельмі шкадую, што пра тое не захавалася ў мяне савецкая кніжачка, вершам пісаная, якую я атрымала за добрую навуку; бо як прыйшлі немцы то загадалі ўсе кніжкі і часопісы занесці да солтыса. Я па-руску крыху ўмела, бо ў Нараўцы жыла ў Барвы Панкоўскае, якая спявала ў царкве і выпісвала рускую газету, і я з тае газеты па літарцы навучылася; жыла ў яе ад панядзелка да суботы, а на нядзелю дадому прыходзіла. Саветы ў ляўкоўскай школе вярнулі нас на два класы: калі я ў Нараўку хадзіла ў пяты клас, то ў Ляўкове загадалі мне хадзіць у трэці. Першы год я не хадзіла, бо не было ў што адзецца і што на ногі налажыць, а пасля абувала пасталы або боты па старэйшым брацe. А маразы былі па сорак і больш градусаў, і вятруга; адзін раз, калі б мяне мачаха не пусціла дахаты, то і замерзла б я пад дзвярыма, бо ўжо сама не дала рады адчыніць.

Перад саветамі ў Ляўкове немцы з'явіліся, дзе што ў краме ў Урбаноўскага пазабіралі, а пасля туды людзі з вёскі схлынулі і рэшту разабралі. А пасля прыйшлі саветы; браму ім каля Ёсіпа зрабілі з дрэваў, — яшчэ зялёныя былі, — вярхі дрэваў звязалі і віталі хлебам і соллю. І зараз амаль усе мужчыны — сорак чалавек — папісаліся ў міліцыю. І штодзень сходы і сходы. Далі ім карабіны, і адзін такі міліцыянер выйшаў з карабінам і стукае тым карабінам аб падлогу ў старой школе: „Гэты карабін будзе мне хлеб даваць, будзе мяне карміць!" А мой тата гэтую камуну ўжо ў Расеі бачыў пасля рэвалюцыі і кажа яму:

— А ты знаеш такую рускую пагаворку: „Хто скора палюбіць, той скора і разлюбіць"?

— А ты знаеш, што ты ў нас трэці на расстрэл? — пытае ён тату.

— Ну то страляйце, ці ж я ўцякаю дзе, ці баюся? Расстраляеце, то раз.

Першымі ў спіску былі два бацюшкі Новікі, а мой тата быў трэці, бо псаломшчыкам быў. А пасля прыходзілі і перапрашалі майго бацьку: „Дзядзьку, мы не ведалі..."

Накладалі налогі без пачатку і канца. Ужо як пасля вайны былі налогі, то колькі прызналі, то столькі плаціў збожжа, картофляў і мяса, і грошы, і малако. А саветы — чым хто больш даваў, то ад яго тым больш трэбавалі. У Ляўкове сядзеў безупынна пракуратар, мусі з Гродна, і колькі каму ўздумаў, толькі ад таго патрабаваў. Бедны Вася Зялінскі то і не вылазіў з налогаў, толькі дахаты вернецца, не ўспее коней распрэгчы, а ўжо ўжо зноў госць і зноў накладае на яго. Мучылі проста людзей. Дзесь за Свіслаччу аэрадром будавалі, то туды і каменне і пясок вазілі, мала людзі ў хаце сядзелі, усё налогі і налогі. І не было таго краю, што адрабіў і канец. Адзін мужчына быў там і так сказаў:

— То я ўжо сваё выканаў і ўжо канец.

А савет падслухаў і зарагатаў:

— Будзе канец! Заедзеш дамой і апяць вернешся.

А як жа: заязджае дадому, а там яму кажуць:

— У нашей власти нет конца.

І вывозілі „ворагаў народа": каваля з Новінаў, што там меў пару гектараў пяску, бо кулак. І крамніка Урбаноўскага вывезлі, бо ён тутэйшым таварышам таксама ворагам народа быў, бо багаты. І хаця добры для людзей быў, бо і каму было трэба, то і дапамагаў, то вывезлі і слых пра яго прапаў. А жыда з Нараўкі ніводнага не вывезлі, хаця яны прыгаршчы золата мелі. Усё залежала ад сваіх людзей, ад сваіх сабак. Вось за лесам *прадседацель* жыў, які калі нешта напісаў, то пасля паўгадзіны ўжо не ўмеў таго сабою напісанага прачытаць; такія людзі былі саветам патрэбныя, бо імі лёгка было кіраваць. І быў яшчэ адзін — сволач а не чалавек — што ён людзей вымучыў! Але як напалі немцы, то ён дзяцей на ровар пасадзіў і ўцякаў. Затрымаўся ён на дарозе, якою адступала савецкае войска і кажа:

— Товарищи, куда вы удираете? Надо родину оборонять!

А адзін рускі афіцэр выняў пісталет і кажа:

— А ты что за один? Шпион!?

І бах у лоб, і ўсё.

Сарганізавалі ў нас і калгас. Пасеяць і пасадзіць пасеялі, але сабраць калгаснікам ужо не давялося, бо ўспыхнула вайна; збіралі тыя, на чыім полі аралі і сеялі. А тых, што сталі на працу ў лесе, — шаснаццаць чалавек — у калгас не бралі. Мой брат Жорж таксама працаваў у лесе — стаханаўцам быў; стаханаўцам плацілі ўтрая больш; рублёў у іх было як паловы. За тыя грошы можна было ўсё купіць: і прадукты, і матэрыялы ў краме, што ў гаёўцы за Капітаншчынай была; там маглі купляць толькі сталыя лясныя рабочыя. А ў Ляўкове была крама, якую вёў Хведар Несцярук з Ахрымоў.

Вайна пачалася ў нядзелю раненька, а ўжо ў чацвер раніцаю ў Ляўкове немцы былі. З Ахрымоў прыйшлі, цераз мост на, як мы называлі, выгане, дзе цяпер кладка. Цэлы дзень ехалі, але ім брамы не стаўлялі. Мы там ваду цягалі іхнім коням, то я аж падвечар дахаты вярнулася; матарызацыя была, але не такая як цяпер. Бою не было, але многа рускага войска ў лесе, у Лядскім, асталося; пасля яны па адным, па дваіх прабіраліся на ўсход. Заходзілі да нас, бо мы недалёка рэчкі жылі, *пакушаць* прасілі. А каля Фанасёвае хваіны многа самаходаў устрагла ў пяску.

Немцы ў нас нічога кепскага не рабілі; камуністаў не чапалі, бо ніхто іх не выдаваў і яны жылі сабе спакойна, а пасля сталі ў партызанку хадзіць. Але якая гэта была партызанка? Банда была фармальная... Рускіх там мусі і не было, толькі нашы „таварышы". Яны Харашэўскіх замардавалі; гаварылі, што па палітычных прычынах, але гэта няпраўда, яны іх пабілі за дабро. Увечары мы палягалі спаць, а пасля дзівімся: у акне зарыва, недалёка ад нас. Мы дакладна не ведалі, але дадумоўваліся, што гэта ў Харашэўскіх. Але на другі дзень раненька, яшчэ не развіднела, прыбег да нас Кардаш; ён з бацькам кумамі былі падвойнымі ці нават патройнымі. І ўжо шэпу-шэпу паміж сабою. А мы, дзеці — то ж найлепшы шпіёны — вушы панастаўлялі і слухаем. Кажа: забілі Харашэўскіх. Пабралі іх дабро, амаль між сабою не пастраляўшыся і закапалі з другога боку рэчкі. Але Бог так дае, каб сведкі асталіся. Хлопчык там быў, можа гадоў яму сем-восем было, ён у печ або пад печ схаваўся, а дзяўчаты пад ложкамі пахаваліся; адной было чатырнаццаць, а другая на год ці два старэйшая была... А сын, той Стасек, што цяпер у Парослым жыве, кавалерам ужо быў і на вячоркі ў Рыбакі пайшоў, і як вярнуўся, то ўжо па ўсім было. І зараз людзі даведаліся, бо то адзін другому зараз дакажа. Але не даходзілі пакрыўджаныя справядлівасці, тыя дзяўчаты па вайне недзе на захад выехалі, і той хлопчык таксама. Пабілі старых і аднаго сына, што хацеў уцячы, сякераю ў плечы адзін зарубаў. Павязалі старым рукі ручнікамі, завялі патэфон, каб ім пайграў... Наклалі горбу папераў у хаце і падпалілі, і як стала гарэць, то той хлопчык выскачыў і пабег да суседзяў, і дзяўчаты за ім.

Тыя партызаны яшчэ былі прыйшлі да Максіма Карпюка, бо хтось ім сказаў, што ён дужа простыняў і ўсяго з самаходаў, што ў Фанасёвай хваіне пастраглі, нанасіў. Яго можа тожа пабілі б, але пабаяліся, бо ў яго жылі выселеныя масеўцы.

Аднойчы іншыя партызаны пастраляліся з немцамі. На другі дзень прыехалі немцы ў Капітаншчыну, зрабілі аблаву і хацелі пастраляць мужчын, бо быццам вёска дапамагала партызанам; было гэта 5 чэрвеня 1942 года. Паставілі ўсіх пад плот і зачыталі прыгавор. А на той час прыехаў з Нараўкі Паўлоўскі, які быў солтысам у Ахрымах і Капітаншчыне, а ў Нараўцы працаваў слесарам і ладзіў машыны немцам; немцы зналі яго. Злез ён з матора і адразу стаў паміж немцамі і сваімі людзьмі. Немцы здзівіліся, што ён дабравольна ідзе на смерць і спыталі яго чаму ён так робіць. А ён адказаў немцам, што ручаецца за гэтых людзей, што яны нічога дрэннага не зрабілі, і калі будуць страляць іх, то і яго разам. А немцы зналі ж яго і ведалі, што ён парадачны чалавек і тады пагаварылі паміж сабою і рашылі памяняць прыгавор: загадалі аддаць немцам па дзесяць коней, кароў і свіней ды праз дзве гадзіны пакінуць вёску. І выгнаўшы людзей спалілі ўсё. Пазней вывозілі і іншыя навакольныя вёскі; Скупава і Масева вывезлі ўжо раней, Сухадолы і Гуту вывезлі аж за Ружаны.

*(працяг будзе)*

Запісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# Прадам сваё сэрца

У дэмакратыі — вольнаму воля, а збаўленаму рай. Гавары, што хочаш і жыві як хочаш. Нельга лічыць на спагаду ці дапамогу. Сам сабе гаспадар. Нават можаш сам сябе на часткі прадаць. Пакуль што нелегальна, але з цягам часу, мабыць, афіцыйна. Калі раней прадавалі пасмяротна сваё цела для дабра навукі ці думалі, што сваімі органамі нават пры жыцці можна будзе ратаваць іншых? Асноўнае — пераадолець маральны бар'ер, у чым з дапамогай прыйшла духоўная іерархія, называючы аддачу часткі сябе другому „самым поўным доказам міласэрнасці". Часта беднаму гэта адзіны ратунак.

Таго і ўхапіўся Ромак — бацька паўналетняй дачкі і дарастаючага сына. Усё здарылася неспадзявана раптоўна. На хвалях шалёнай адновы і дэструктыўнага імкнення ашчаслівіць дэмакратыяй, былы дырэктар, якому яшчэ ўчора нізка кланяліся і ставілі яго за ўзор гаспадарнасці і добразычлівасці, назаўтра апынуўся без працы, а колішнія прыяцелі пачалі яго разлічваць. Няважна, што быў непартыйным, што нікому не зрабіў нічога крыўднага, усё ж быў дырэктарам падчас камуны, а з ёю наступіла пара сляпога разліку. Застаўся нікім з сям'ёй на галаве, кватэрай нібы сваёй, але за якую трэба нямала плаціць з адной толькі настаўніцкай зарплаты жонкі. Да пенсіі гадоў не хапае, а рэнту па стане здароўя мо і атрымаў бы, але замест лячыцца працаваў, абмінаючы нават лекарскія звальненні, таму і камісія сцвердзіла, што хвароба паявілася раней, а падчас працы здароўе заўважальна не пагоршылася. Працы знайсці не мог. Не прымалі нават на стоража, выкручваючыся яго амаль пяцідзесяцігадовым узростам, быццам бы гады, а не вопыт вырашалі аб прадуктыўнасці. Але ў нашай дэмакратыі і аднове нянавісць вышэй прыдатнасці стаіць, а будучыня маёй дзяржавы маёй кішэняй мерыцца. Перспектывы невясёлыя — „куранёўка" канчаецца, запасаў няма, бо і якія пры двух студэнтах, калі за школы плаціць трэба, і пагроза патраты працы жонкай, таму што руская мова, як „прычына няшчасця Польшчы", у школе пачынала быць штораз менш прыдатнай. Як завязаць! Таму і ўхапіўся Ромак модных тых суполак з абмежаванай адказнасцю. Сам мо і не адважыўся б, каб не сардэчны знаёмы, якому ў свой час добрую пасаду аформіў. Прытупіў розум перспектывамі, што ў выпадку Ромка давалася лёгка. Ухапіўся ён задуманага і абодва голыя ўласны, як звычайна было ўзнёсла гаварыць, бізнес адкрылі, бізнесменамі стаючыся. За парадай рашучага і бойкага знаёмага Костка гандлем заняцца рашылі. Костак разнюхаў, што найлепш прадаваць у Нямеччыну драўніну, а ў Беларусь і Расію — мясныя прадукты. Тэарэтычна ўсё было, як у казцы, дзе праўда заўжды верхам. У Латвіі будуць купляць быкоў, у Польшчы адкрыюць лінію вытворчасці кансерваў, якія будуць прадаваць у Беларусь, а потым і ў Расію. Адтуль будуць браць драўніну і высылаць у Нямеччыну. Дабрабыт рэчкаю пацячэ. Адно толькі — каса на размах патрэбная. Банкі ў свой час ахвотна на паратунак ішлі немаведамымі працэнтамі пазыку ахладаючы. Ачмураны перспектывай дабрабыту Ромак развітаўся з розумам і паставіў у залог крэдытору кватэру, машыну і паруку прыватнымі рахункамі знаёмых. Падазрэнняў ніякіх і быць не магло, бо Костак зрабіў тое ж. Тэарэтычна ўсё было добра. Банк нават адзін год перадсплатнай льготы даў. Сума сабралася нічагаватая. Пачынаць было можна. Бывалы ў свеце Костак узяў на сябе абавязак уладзіць кантакты. Першую разведку на Беларусь зрабілі разам. Потым, каб не траціць лішне грошай вырашылі, што Ромак, як сямейны, будзе на месцы пільнаваць тэлефанаў у бюро, якое дзеля ашчаднасці, памяшчалася ў кватэры Костка, а ён у сваю чаргу будзе падарожнічаць, уладжваючы справы і маючы паўнамоцтвы карыстацца банкаўскім рахункам. Месяц-два арганізацыйныя справы ішлі нармальна. Так прынамсі здавалася Ромку. Званілі тэлефоны, прыходзілі падпісаныя Косткам дамовы, паяўляліся контрагенты. Адно, што пачало хваляваць Ромка, гэта непастаянныя кантакты Костка з фірмай, які на канец прапаў, як вадой змыла. Не толькі ён, бо банк прыслаў паведамленне аб нулявым стане рахунка. Далей пайшло, як па нітцы. Дзе коратка, там і рвецца. Банк занепакоены бракам дзейнасці спыніў гадавую льготу, паручыцелі пачалі пагражаць. Мала таго, дом наведалі нейкія рускія. Ромак хадзіў, як сам не свой. Палавіну стагоддзя сумленна пражыў, нават грашака чужога не ўзяў, а тут — маеш табе! Застаецца без хаты, машыны, поўна даўгоў у людзей, якія добразычліва дапамагалі, а яшчэ і дзецям пагражаюць. Усё часцей адсутнічаў дома. Дачка выпадкова знайшла ў яго пакої аб'яву з нямецкай газеты, што нейкі нямецкі бізнесмен заплаціць мільён марак за здаровае сэрца. Хатнія спалохаліся ўсур'ёз. Ромак не паяўляўся.

2 снежня 1998 года па тэлеканале „Польсат" аб'явілі, што ў бліжэйшай тэлеперадачы „На кожную тэму" выступіць чалавек, які гатовы прадаць сваё сэрца. Пачуўся голас: „Прадам тое, што найдаражэйшае. Калі пагасяцца мае даўгі і змагу ўратаваць добрае імя маёй сям'і ды ніхто не будзе ім пагражаць, я гатовы прадаць уласнае сэрца".

Міхаль ПАШКОЎСКІ

PS. Супадзенне імён выпадковае.

# Кіёск з аб'явамі



8 мая г.г. з парку ў Орлі ўрэшце знік кіёск, які прастаяў там некалькі дзесяцігоддзяў, а ад дзевяці гадоў пуставаў. Апошнім яго ўладальнікам было Ваяводскае аддзяленне Таварыства прыяцеляў дзяцей, якое не цікавілася лёсам будынка. Паколькі ў мястэчку няма дошкі для аб'яў, тады на сцены кіёска наклейваліся розныя плакаты, афішы, лістоўкі і аб'явы. У сярэдзіне кіёска збіраліся часам алкашы для выпіўкі, а маладыя хуліганы прабавалі разбіць сцены кулакамі і выспяткамі. Прытым стаяў гэты кіёск на рагу вуліц і засланяў шафёрам від на дарогу.

Дзевяць гадоў жыхары і радныя не маглі дапрасіцца войта зрабіць парадак з непатрэбным кіёскам. Гэтая справа ставілася на ўсялякага роду сходах, пісалі аб ёй газеты. Усё ж дзвынікова. Аднак улады не прадбачылі аднаго: на сценах кіёска з'явіўся бюлетэнь „Zza ławy radnego", у якім асвятляецца дзейнасць мясцовага самаўрада і крытыкуецца праца гміннай адміністрацыі. Пасля гэтага войт неадкладна прыняў рашэнне аб зносе кіёска.

Жыхары Орлі ўцешыліся з навядзення парадку ў парку. Аднак ад зносу кіёска пацярпела прырода, бо цяпер аб'явы аб футбольных матчах прыбіваюць да дрэў цвікамі. Усё ж такі дошка для аб'яў патрэбная. **Міхал МІНЦЭВІЧ**

*Фота аўтара*

# Жылі як родная сям'я

Калісьці, пры нямецкай акупацыі, у Дубічах-Царкоўных адбыўся сход, на якім нямецкі камісар сказаў дакладна, каб усе зразумелі: не мы, немцы, вас знішчаем, але вы самі сябе знішчаеце. Даў ён ясны вывад, што калі б не было сваіх сабак і даносчыкаў, дык намнога менш было б ахвяр, асабліва сярод мірнага насельніцтва. На жаль, у кожным народзе знойдуцца лайдакі гатовыя знішчыць свайго бліжняга па розных прычынах: з помсты, нянавісці, зайздрасці. Калі б не знайшліся гэтых некалькіх аматараў лёгкай наживы, дык вёска Райск ацалела б і не было б гэтай страшнай трагедыі.

А колькі савецкіх байцоў з разбітых часцей асталіся б жывымі, каб не свае сабакі! Таксама і яўрэяў, каб дагадзіць фашыстам, аддавалі ў рукі ворага на пэўную смерць, хаця такая лёгкая нажыва на чужым заўсёды бокам вылезе; нездарма кажуць, што чужая кроў ніколі не прападзе.

Хаця пра Дубічы-Царкоўныя гавораць рознае і часта глядзяць крывым вокам, бо ў нас, маўляў, найперш арганізавалася „Салідарнасць" у 1981 годзе, аднак магу пахваліцца, што ў часе нямецкай акупацыі ніхто нікога ў рукі фашыстаў не выдаў. Хаця сярод жыхароў нашай вёскі былі розныя людзі — і камуністы, і нейтральныя, і прыхільнікі новага парадку, — аднак жылі яны як родная сям'я: самагонку гналі і пілі, а да таго ж, як мае дзядзькі, супрацоўнічалі ў якасці сувязных з партызанскім атрадам, які размяшчаўся ў Белавежскай пушчы, хаця такая сувязь магла кончыцца трагічна так для цэлай маёй сям'і, як і вёскі. Свой даносчык аднак не знайшоўся.

На пачатку вайны ўсё ж дайшло да непрыемнага выпадку. Адна старая бабулька па сваёй легкадумнасці прывязла аднаго немца да раненага байца, які ляжаў пад коўдрай на адным з панадворкаў. Яна думала, што немец заапякуецца раненым і даставіць у медыцынскі пункт, а той прамовіў на чыстай польскай мове: „Ja go wyleczę..." І выхапіў з кабуры пісталет і стрэліў у нявіннага. І не ведаю, ці з гэтага, ці не з гэтага бабулька тая пад самую старасць цалкам аслепла.

Але ў іншых вёсках было па-рознаму і знаходзіліся свае сабакі гатовыя рабіць крыўду сваім бліжнім на найменшы жэст розных лайдакоў. І таму нічога дзіўнага, што ў нас такі балаган і хаос.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# Да ўвагі бацькоў

У будучым 1999/2000 навучальным годзе ў Пачатковай школе н-р 4 у Беластоку будзе праводзіцца навучанне беларускай мовы на ўзроўні I, II і III класаў. Бацькі, якія жадаюць, каб іхнія дзеці ў гэтым узросце вывучалі беларускую мову могуць запісваць іх у гэтую школу. Адрас школы: **ul. Częstochowska 6a, tel. 742 21 02**. Школа знаходзіцца ў цэнтры Беластока.

Таксама ж у цэнтры знаходзіцца Самаўрадавае прадшколле н-р 14, у якім вядуцца заняткі па беларускай мове ды дадатковыя заняткі ў танцавальна-музычным і тэатральным гуртках. Бацькі могуць запісваць у яго дзяцей у дашкольным узросце. Адрас прадшколля: **Al. Piłsudskiego 20/4, tel. 742 19 05**.

# Камюніке

Таварыства будовы Помніка праваслаўным жыхарам Беласточчыны забітым, памардаваным, замучаным і прапаўшым у 1939-1956 гадах звяртаецца з заклікам дапамагчы ўдакладніць ніжэйпададзеныя факты, звязаныя са злачынствамі на праваслаўным насельніцтве горада Гайнаўкі ў перыяд II сусветнай вайны:

1. 25 чэрвеня 1941 г., каб пазбегчы сустрэчы з немцамі, у чыгуначным будынку ў Гайнаўцы па вул. 3-га Мая схаваліся 16-гадовы Ян Меклер і 25-гадовы Сяргей Ледзь. Немцы будынак абстралялі і ўсярэдзіну кінулі гранаты. Абодва яны загінулі.

2. 11 ліпеня 1942 г. праўдападобна ў Пііцкім лесе былі забіты 43-гадовы Сяргей Сланіцкі, Леанчук, Мароз з жонкаю, Васіль Рабчук, Шаўчук, Шэвіц, 35-гадовы Уладзімір Вінаградны і Жукаў.

Весткі аб загінуўшых можна дасылаць на бланках ніжэйнадрукаванай анкеты.

Наш адрас: Stowarzyszenie Budowy Pomnika Prawosławnym Mieszkańcom Białostocczyzny, ul. Warszawska 11, 15-062 Białystok.

***Kwestionariusz osobowy***

1. Nazwisko i imię ..........
2. Imiona rodziców ..........
3. Data urodzenia ..........
   i miejsce (wieś/miejscowość, gmina/parafia) ..........
4. Pochodzenie społeczne ..........
5. Stan cywilny i rodzinny ..........
6. Wykształcenie ..........
7. Zawód wyuczony ..........
   i wykonywany ..........
8. Ostatnie miejsce pracy ..........
   i stanowisko ..........
9. Ostanie miejsce zamieszkania ..........
10. Przynależność do partii politycznych i organizacji społecznych:
    a) do 1939 r. ..........
    b) od IX 1939 r. do VII 1944 r. ..........
    c) po VII 1944 r. ..........
11. Data ..........
    i miejsce śmierci (wieś/miejscowość, gmina) ..........
12. Okoliczności śmierci (w jaki sposób? kto zabił? przyczyny — za co?) ..........
    ..........
    ..........
    ..........
13. Ustalono na podstawie:
    a) dokumentacji (jakiej?) ..........
    ..........
    b) relacji ustnej (czyjej?) ..........
14. Kto sporządził ..........
    data .......... miejscowość ..........
15. Uwagi ..........
    ..........
    ..........

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Мая мама памерла маладая, даўно, а я ж ужо бабуля — маю дзяцей і ўнукаў. Жывем мы ўсе ў горадзе, але нарадзілася я і вырасла на вёсцы.

І вось прыснілася мне, што я там на вёсцы, на панадворку, і што бачу?! Стаіць, цяжка сказаць што: нейкая буда, вялікая. Я падыходжу, а ў ёй ляжыць мая мама-нябожчыца. Я яе не бачу, але ведаю, што ўся буда ў сярэдзіне запоўнена. Падыходжу ззаду і бачу збліжку сваю сукенку, якая накрывае гэту буду (сукенку гэту я маю сапраўды, яна ружовага колеру). Я дакранаюся да яе і адчуваю, што там ногі мамы, ды яны не цвёрдыя, як у нябожчыка, а такія, як у жывога, цела мяккае. І чую, не ведаю адкуль, што гэтая буда з целам маёй мамы будзе тут, на панадворку, стаяць назаўсёды.

Астронку, яшчэ скажу, што я глядзела на гэта без ніякага страху, здзіўлення, проста як бы гэта было зусім звычайнае.

**ІРЫНА**

Даражэнькая Ірына! Як жа цябе тут пацешыць, парадаваць?! Маці сніць наогул кепска, а нават і тады, калі яна ўжо нябожчыца.

Табе прыснілася, што твая мама памерла, яна ляжыць у гэтай будзе, і гэта магло б прадвяшчаць табе вялікую небяспеку, тым больш, што цела яе быццам жывое.

Мяркую, даражэнькая, што тую буду, у якой ляжала твая маці, можна трактаваць як труну. Труна гэта была накрыта тваёй сукенкай, і мяркую, што сон гэты можа датычыцца менавіта цябе. А труна абазначае для старых блізкую смерць, для сямейных — прыбытак, для маладых — вяселле і доўгае жыццё.

Мяркую, што ты, хаця ўжо і бабуля, яшчэ даволі маладая, у сувязі з чым можа быць і прыбытак у грашах. А грошы ж — заўсёды небяспека.

**АСТРОН**



**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1999 r. upływa 5 czerwca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




Мал. Алеся СУРАВА

## Раўнавага

Адны сякуць, раняць, разбіваюць,
Кажуць: Людзі, каемся да неба!
Іншыя — ужо грошыкі збіраюць,
Адбудоўваць усё ж тое трэба,

Лячыць, карміць, масты зноў ставіць,
Выгнаных вяртаць у хату...
А ці хопіць іх, каб збавіць
Ды сваю душу ў даплату?..

**Вандал Арлянскі**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. пярэдняя частка галавы чалавека, 8. месца ў пустыні, дзе ёсць вада і расліннасць, 9. ноша, якую можна абхапіць рукамі, 10. галоднай куме на ўме, 11. госць на яго — радасць у хату, 13. Антон, славенскі паэт (1856—1912), 15. паўвостраў на ўсходзе Азіі, 16. чараўнік у першабытных народаў, 20. рабочы, які выконвае даручаную яму працу дома, 22. двухгорбы вярблюд, 23. індыйскі князь, 27. займаецца інтрыгамі, 29. марскі разбойнік, 30. вулкан у Гватэмале, 3918 м., 31. святая гара ў Грэцыі, 2033 м., 32. Паўлюк, беларускі паэт (1813—91), 33. населенае месца, 34. прыстасаванне для распальвання агню.

**Вертыкальна:** 1. аўтарытэт, 2. вецер з пустыняў на Міжземнае мора, 4. памер, аб'ём, колькасць, 5. сталіца Марока, 6. цэбрык з ручкай, 7. Франк, амерыканскі кінарэжысёр (1897—1991), 12. амярцвенне тканак арганізма, якое суправаджаецца іх гніеннем, 14. апарат для друкавання на матавым шкле, 16. зімовае адзенне з футра, 17. каля яе запыліўшся, 18. дадатны электрод, 19. рыбныя ячэйкі, 21. драма Сафокла, 24. Дзмітрый, расейскі географ і этнограф (1843—1923), 25. металічны распалены прут, якім прапякаюць дзіркі, 26. архіпелаг з Ганалулу, 27. бліскучая кропка, 28. апорная бэлька, якая падтрымлівае столь.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 17 нумара**

**Гарызантальна:** Эмба, іслам, Бразер, блюз, Намі́б, атопкі, Канфуцый, цэбар, „Турандот", Гладстан, Саўці, Венуаліс, быліна, наліў, Ржэў, Сахара, янтар, дзік.

**Вертыкальна:** Астадэ, паніка, Мальфета, абзац, габой, Ветка, Барысфен, тыраксін, цяга, блат, удаў, Этлі, Унгарэці, асанна, Цвікаў, Быкаў, Відар, нарад.

Рашэнне: **Канстанцін Майсеня**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

## Кароткі курс параноі

Кожнае каханне павінна дайсці да свайго абсурднага канца (*дэвіз казановічаў*).

* * *

Сустрэча тэт-а-тэт: уцёкі ад лупатых вачэй суседзяў.

* * *

Раўнаваць, як Атэла — страціць розум.

* * *

Яна ўцягнула яго ў свае сны. Прачнулася на восьмым месяцы.

* * *

Ставіўся да яе па-чалавечы, а яна падарыла яму чацвярню.

* * *

Ён жыў зусім у іншым свеце, чым яна. І ад іх нарадзіліся астранаўты.

* * *

Як за выратавальны круг, ухапіўся за абсурдную адтуліну.

* * *

— Я вас кахаю! — сказаў Пушкін, прыціснуўшы сваё сцягно да падатлівай плоці Наташы Ганчаровай і выклікаў Дантэса на паядынак.

* * *

Мроя паклоннікаў Мэрлін Манро: павялічыць б'юст да сусветных памераў.

* * *

Абсурд — рухаюча сіла прыроды.

**Сідар Макацёр**




Мал. Алеся СУРАВА

## Мазгалей

Я вельмі рады, што азваўся ўрэшце мой мілы сябра з даўніх гадоў Міхаль Пашкоўскі, і пачаў пісаць, і то пад сваім сапраўдным прозвішчам. Калісьці, ведаеце, баяўся ці што, і ўсё скрываўся пад прозвішчам то бабуліным, то першае, то другое жонкі, то ўнучкаў у апошні час. Быццам было чаго саромецца ўласных слоў у добрай справе выказаных! Хіба ж у „Ніве" не бэсцім, не паганім нікога, тым больш без прычыны. Ёсць такія, што „чытаюць між **вершамі**", як сказаў адзін вядомы беларус, хоць будзеш ліць яму адзін пахвальны мёд, і бачаць тое што не было напісана і нават не падумана аўтарам! Во празорлівасць і відушчасць нашых народных беластоцкіх прарокаў! Закрануты такім чынам персанаж допісу пачынае адплёўвацца ядам, на жаль не на старонках нашага тыднёвіка, а ўсюды, дзе нас не чытаюць і не чуюць і чуць нават не хочуць. Не ведаюць, бедныя ярыя злоснікі, хітра вяшчаючыя ў эфір і на старонкі sprzyjających газет, клянучыя на агульнанароднай мове ў кампаніі „нашых людзей" і па-свойму пад коўдрай, што кожная кепская зламысная энергія заўсёды да іх вернецца!!! Нішто ў прыродзе не прападае, толькі час-часом мяняе форму ці структуру. І так злое слова ў адрас іншага абернецца пячоначнымі колікамі ці правалам на экзамене патомка, падобна як кінутыя бомбы адрыгнуцца паветранымі трубамі ці іншымі катаклізмамі.

Таксама шкодна занадта мудрагеліць аўтару, скрываючы сваю думку. Занадта яе ўпрыгожваючы, стылёва матаючы на вус, забаўляцца ўласным слававеннем. Але як бы аўтар ні стараўся, прадстаўляючы іншых, ні хаваўся за псеўданімам ці крыптанімам, найбольш відна яго!

Ліецца слова за словам, уецца думка. А ты, чытач, чытай ды кумекай. Спачувай таму, хто пісаў, бо, можа быць, так яго прыціснула, што мусеў напісаць, бо *пэнк бы*, калі б не выліў з сябе той гекталітр слоў, бы крыві сабе кіпучае ўпусціў, і палегчала яму. Або пісаў ён для ганарара. Грош маленькі, але ганаровы, уласнаручна зароблены, і да сваіх людзей накіраваны.

**Вандал Арлянскі**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Між паляўнічымі:

— Чаму твая такса так брэша, хаця тут няма ніякае звярыны?

— Гэта на ўсякі выпадак: каб хтосьці не палічыў яе лісам.

* * *

У адной парафіі падчас споведзі кожная жанчына прызнавалася ксяндзу:

— Саграшыла, калі было вяселле ў Навакаў.

Калі выйшла апошняя, ксёндз са злосцю трэснуў дзвярыма:

— Што за чорт: калі ўжо трапляецца добрае вяселле, дык мяне туды не запрашаюць!

* * *

— Я чуў, што ты быў на паляванні. Дзе твае трафеі?

— У бальніцы.